# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА С.-ГАСПАДАРКІ



N 11

ВЕРАСЕНЬ 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць 2 разы ў месяц

№ 11 (17) ‖ Верасень ‖ 1930 г.



## Калгасны рух і ўздым сельскай гаспадаркі

*(Рэзалюцыя XVI зьезду ЎсеКП(б) па дакладу тав. Якаўлева)*

(Прынята аднагалосна)

### Вынікі калгаснага руху

Прайшоўшыя з часу XV зьезду партыі 2 з палов. гады былі пэрыядам найвялікшага пералому ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі СССР.

Гэты пералом характарызуецца тым, што на 1 мая 1930 г. у асноўных збожжавых раёнах вытвараючых вобласьцяў калектывізацыя ахапіла 40—50 проц. сялянскіх гаспадарак замест 2—3 проц. гаспадарак вясной 1928 г., а пасеўная плошча калгасаў па СССР з 1,5 млн. гект. увесну 1928 г. павялічваецца, як гэта і прадугледжвалася пастановай Цэнтральнага Камітэту Ўсе КПБ(б) ад 5-га студзеня прыкладна да 30—35 млн. гект увесну 1930 г., ня лічачы азімага кліну. У выніку гэтага калгасы разам з саўгасамі ўжо ў бягучым 1930 г. дадуць асноўную частку таварнай збожжавай прадукцыі ў адзнаку ад пэрыяду XV зьезду і XVI канфэрэнцыі, калі пераважная частка таварнай збожжавай прадукцыі вытваралася індывідуальнай сялянскай, у тым ліку і кулацкай гаспадаркай. Такім чынам, партыя вырашае на справе асноўную і цяжэйшую праблему сельскай гаспадаркі—збожжавую праблему.

Сусьветна-гістарычнае значэньне пералому, які адбыўся ў разьвіцьці СССР, заключаецца ў тым, што:

1. Значная частка серадняцкай масы ў важнейшых збожжавых раёнах сьледам за беднякамі зразумела перавагу буйнае грамадзкае гаспадаркі, аб'ядняўшыся дабраахвотна ў калгасы і праводзячы сяўбу на калектыўных палёх, і павярнула на социялістычны шлях. Тым самым ня толькі тэарэтычна даведзена, але і праверана на практыцы мільёнаў людзей магчымасьць пры дыктатуры пралетарыяту непасрэднага пераходу ад адсталай малапрадукцыйнай дробнай і драбнейшай індывідуальнай сялянскай гаспадаркі да буйнай калектыўнай высокапрадукцыйнай гаспадаркі.

2. На аснове разгортваньня суцэльнай калектывізацыі шэрагу раёнаў СССР партыя перайшла ад ранейшай палітыкі абмежаваньня і выцісканьня капіталістычных элемэнтаў у вёсцы да новай палітыкі— палітыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы, ажыцьцяўляючы гэту палітыку, як неадымную складаную частку суцэльнай калектывізацыі, якая праводзіцца самімі беднякамі і серадняцкімі масамі.

3. У выніку масавага разьвіцьця калгасаў і савгасаў і пачатай ліквідацыі кулацтва *зьмяняюцца самыя суадносіны розных эканамічных укладаў у гаспадарцы СССР*, паколькі ў дадатак да сацыялістычнага ўкладу, прадстаўленага прамысловасьцю, вырастае сацыялістычны ў сельскай гаспадарцы СССР выціскаючы капіталістычны ўклад.

4. Сацыялістычныя адносіны ў СССР, якія абапіраліся да гэтага часу амаль выключна на сацыялістычную прамысловасьць, цяпер пачынаюць абапірацца таксама і на шпарка ўзрастаючы сацыялістычны сэктар (буйная вытворчасьць у выглядзе калгасаў і савгасаў) у сельскай гаспадарцы. Тым самым адкрыта магчымасьць перамогі найвялікшай цяжкасьці пралетарскай рэвалюцыі, якая заключаецца ў тым, што пралетарская ўлада „гатовых“ сацыялістычных

> „адносін не агрымлівае, калі ня браць самых разьвітых форм капіталізму, якія ў сугнасьці ахапілі невялікія верхавінкі прамысловасьці і зусім мала яшчэ закранулі земляробства“ (Ленін, VII зьезд партыі. Даклад аб вайне і міры. Том XXII, стар. 316, 2-е выд.)

5. У адпаведнасьці з усім гэтым пановаму ставіцца цяпер пытаньне аб апоры савецкай улады ў вёсцы. Цяпер у важнейшых збожжавых раёнах СССР вёска падзяляецца на дзьве асноўныя часткі: на калгасьнікаў, якія зьяўляюцца сапраўднай і трывалай апорай савецкай улады, і на не калгасьнікаў з бедняты і серадн якоў, пакуль яшчэ нежадаючых увайсьці ў калгасы, але якіх масавая практыка калгасаў, бязумоўна, пераканае ў адносна найкарацейшы тэрмін у неабходнасьці ўступіць на шлях калектывізацыі.

Зьезд лічыць патрэбным адзначыць, што партыі ўдалося дасягнуць гэтага пералому ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі СССР толькі ў выніку:

а) шпаркага тэмпу разьвіцьця індустрыі, якая зьяўляецца ключом рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на калектыўных пачатках;

б) масавага разгортваньня каапэраваньня, арганізацыі машына-трактарных станцый і разьвіцьця савгасаў;

в) наступленьня на капіталістычныя элемэнты вёскі (кулацтва) на базе саюзу з серадняком, які прадстаўляе асновы калгаснага будаўніцтва ў даны момант;

г) разгортваньня работы па арганізацыі вясковай бедняты і батрацтва;

д) разгрому контр-рэвалюцыйнага трацкізму і правага ўхілу.

## II. Узмацненьне асноў калгаснага руху і змаганьне з памылкамі

Замацаваньне дасягнутых посьпехаў у галіне калектывізацыі і на гэтай аснове далейшае разьвіцьцё калектывізацыі магчымы толькі пры ўмове няўхільнага ўжываньня ў практыцы наступных карэнных марксыцка-ленінскіх прынцыпаў калгаснага руху, адступленьня ад якіх зьяўляецца найцяжэйшым злачынствам супроць дыктатуры пралетарыяту:

1. Калгасы могуць быць пабудаваны толькі на аснове дабраахвотнасьці. Усякая спроба ўжываньня гвалту або адміністрацыйнага прымушэньня ў адносінах да бядняцка-серадняцкіх мас у мэтах іх далучэньня да калектываў зьяўляецца грубым парушэньнем лініі партыі і злоўжываньнем уладай.

2. Асноўнай формай калгасу на данай стадыі зьяўляецца сельска-гаспадарчая арцель. Патрабаваць, каб сяляне, уступаючы ў арцель, неадкладна адмовіліся ад усякіх індывідуалістычных навыкаў і інтарэсаў, ад магчымасьці весьці дадатковую да грамадзкай індывідуальную гаспадарку (карова, авечкі, птушкі, прысядзібны агарод), ад магчымасьці выкарыстаньня для сябе заработкаў на баку і г. д.—значыць забываць азбуку марксызму-ленінізму.

3. Форма калгасу павінна адпавядаць гаспадарчым асаблівасьцям раёну і галіне гаспадаркі. Побач з арцельлю ў некаторых раёнах нязбожжавага характару, а таксама ў нацыянальных раёнах Усходу можа атрымаць на першы час масавае распаўсюджваньне таварыства па грамадзкай апрацоўцы зямлі, як пераходная форма да арцелі.

4. Калгасны рух можа падымацца да вышэйшай формы—да камуны—у адпаведнасьці з павышэньнем тэхнічнай базы, ростам калгасных кадраў і культурнага ўзроўню калгасьнікаў пры абавязковай умове прызнаньня самімі сялянамі адпаведных зьмен у статуце і іх ажыцьцяўленьня зьнізу.

5. Неабходна для дасягненьня вышэйшай прадукцыйнасьці працы—стварэньне ў калгасах новай грамадзкай дысцыпліны—можа быць дасягнута толькі на аснове сапраўднай самадзейнасьці і актыўнага ўдзелу калгасьнікаў і калгасьніц у кіраўніцтве гаспадаркай калектыву.

6. Пераход да калектыўнага земляробства можа быць ажыцьцёўлены, як гэта ня раз паказваў Ленін, толькі пры ўмове аказаньня калгасамі шырокай арганізацыйнай, матар'яльнай і фінансавай дапамогі з боку савецкай дзяржавы:

> „Кожны грамадзкі лад узьнікае толькі пры фінансавым падтрыманьн пэўнае клясы" (Ленін аб каапэрацыі т. XVIII, ч. 2, стар. 141).

7. Антыленінскай зьяўляецца ўсякая спроба перанясеньня на калгасы арганізацыйнай сыстэмы кіраўніцтва саўгасамі, бо ў адзнаку ад саўгасу, які зьяўляецца дзяржаўным прадпрыемствам, створаным на сродкі дзяржавы, калгас зьяўляецца дабраахвотным грамадзкім аб'яднаньнем сялян, створаны на сродкі саміх сялян, з усімі выцякаючымі адсюль вынікамі.

8. Пераход ад гаспадаркі індывідуальнай да гаспадаркі калектыўнай можа ажыцьцявіцца толькі на аснове саюзу рабочае клясы і беднаты з серадняком, што абавязвае да сыстэматычнага прыцягненьня *сераднякоў да калгаснага кіраўніцтва.*

Выходзячы з усяго гэтага, зьезд лічыць асабліва важным уяўленьне кожным членам партыі характару тых памылак і скажэньняў лініі партыі, якія мелі месца вясной гэтага году ў практыцы правядзеньня калектывізацыі.

Гэтыя памылкі і скажэньні вызначаліся ва ўжываньні мер прымусу і гвалту ў адносінах сераднякоў і беднякоў пры пабудове калгасаў; у абагуленьні членаў калгасаў дробнай жывёлы і кароў, якія маюць спажыўнае значэньне; у перанясеньні на нязбожжавыя раёны тэмпаў калектывізацыі, апраўдаўшых сябе на практыцы і прадугледжаных пастановамі ЦК толькі ў адносінах збожжавых раёнаў;

у скарасьпелым стварэньні камун без адпаведнай матар'яльнай і арганізацыйнай падрыхтоўкі, у стварэньні пад выглядам калгасаў-„гігантаў“ няжыцьцёва-бюракратычных арганізацый, пабудаваных на пачатках камандваньня; у затрыманьні прызначаных урадам для калгасаў крэдытаў і пазбаўленьні калгасьнікаў прадстаўленых урадам ільгот; у грубым адміністраваньні ў адносінах да калгасаў і калгасьнікаў і замене выбарнасьці назначэнствам, камандваньнем зьверху; у зацiраньні серадняка і невыкарыстаньні яго гаспадарчай практыкі; у перанясеньні на серадняка мер барацьбы, накіраваных супроць кулака („раскулачваньне“, пазбаўленьне выбарчых правоў і г. д.).

Сутнасьць гэтых памылак і галоўнейшых скажэньняў лініі партыі, атрымаўшых пашырэньне асабліва ў шэрагу раёнаў спажываючай паласы ў нацыянальных рэспубліках і вобласьцях Усходу, СССР Цэнтральны Камітэт у сваёй адозве ад 2 красавіка вызначыў наступным чынам:

> „Палітыка ўзмацненьня саюзу з серадняком пры апоры на беднату і бязьлітасным змаганьні з кулацтвам стала падмяняцца наскрозь варожай ленінізму палітыкай камандваньня ў адносінах серадняка“ (адозва ЦК ад 2 красавіка 1930 г.).

Гэтыя памылкі выклікалі ў шэрагу раёнаў ня толькі антыкалгасныя выступленьні, але і ў асобных выпадках перарастаньне іх пад узьдзейнічаньнем кулацтва ў антысавецкія выступленьні. Пры чым найбольш трывожным быў той факт, што—

> „... з боку партыйных арганізацый былі спробы замазаць craoranae становішча і замест прызнаньня і выпраўленьня сваіх памылак і недахопаў у рабоце ўсё валіць на хістаньні серадняка“ (там-жа).

Калі-б гэтыя памылкі ня былі сваячасова выпраўлены Цэнтральным Камітэтам партыі (пастанова ЦК ад 20 лютага, 10 сакавіка, 15 сакавіка, 2 красавіка і артыкулу т. Сталіна „Галавакружэньне ад посьпехаў“ і „Адказ таварышам калгасьнікам“),—гэта пагражала-б зрывам справы калектывізацыі сельскае гаспадаркі, падрывам самой асновы савецкае дзяржавы—саюзу рабочае клясы з сялянствам.

Усе меры, ухваленыя Цэнтральным Камітэтам для выпраўленьня памылак, дапушчаных у практыцы калектывізацыі, у канечным рахунку зводзіліся да аднаўленьня правільных ленінскіх адносін да серадняка, парушанага ў шэрагу раёнаў, да замацаваньня дасягненьняў калгаснага руху і да ажыцьцяўленьня палітыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы, на аснове суцэльнай калектывізацыі і ў саюзе з серадняком.

Вынікам выпраўленьня памылак партыйных і савецкіх арганізацый зьяўляецца той факт, што ў рашаючых збожжавых раёнах асноўная часьць пасеву праведзена калгасамі, а ў ня збожжавых раёнах індывідуальнікі энэргічна праводзяць сяўбу пры адначасовым захаваньні вядомага ліку найбольш устойлівых калгасаў, якія могуць стаць для асноўных сялянскіх мас гэтых раёнаў ядром будучага калгаснага руху.

## III. Аб тэмпах калектывізацыі і задачах перабудовы сельскае гаспадаркі

Ход разгортваньня веснавой сяўбы 1930 г. паказвае, што на аснове калектывізацыі і насаджэньня савгасаў партыі ўдаецца дабіцца вырашэньня цяжэйшай збожжавой праблемы. Вырашэньне збожжавай праблемы ў сваю чаргу ня толькі палягчае ў далейшым разьвіцьцё

тэхнічных культур і жывёлагадоўлі, але і вырашае пытаньне аб магчымасьці шляхам разьвіцьця калектыўнае і дзяржаўнае гаспадаркі вываду іншых галін сельскае гаспадаркі з цяжкасьцяй неперарможных для малапрадукцыйнае, дробнае і драбнейшае гаспадаркі.

Магчымыя тэмпы далейшага разьвіцьця збожжавае гаспадаркі і перамогі крызісу жывёлагадоўчай гаспадаркі вызначаюцца тымі вялізарнымі магчымасьцямі разьвіцьця прадукцыйных сіл, якія захоўваюць у сябе калгасы.

Ужо гэтай вясною ня толькі міжсяленныя машына-трактарныя станцыі і старыя калгасы, але новыя калгасы, пабудаваныя на аснове простай канструкцыі сялянскага інвэнтарю, якія ня маюць яшчэ выстарчальнага арганізацыйнага і гаспадарчага вопыту, змаглі значна пашырыць свае пасеўныя плошчы і пусьціць у ход закінутыя землі і цаліны. Апроч таго, магчымасьці, якія адкрываюцца разьвіцьцём саўгасаў, характарызуюцца тым фактам, што адны саўгасы (старыя і новыя) дадуць ужо ў гэтым годзе каля 100 млн. пуд. таварнага хлеба, а ў будучым годзе ня менш 250 мільёнаў пуд. таварнага хлеба. Гэта азначае, што на аснове калектывізацыі, *разьвіцьця машына-трактарных станцый і арганізацыі саўгасаў партыя зможа пачаць ажыцьцяўляць лёзунг „дагнаць і перагнаць“ капіталістычныя краіны сьвету ня толькі ў адносінах прамысловасьці,* дзе перавага буйнае гаспадаркі ўжо даўно выкрылася з вялізарнай сілай, але і ў абсягу сельскае гаспадаркі, тэмпы разьвіцьця якой да гэтага часу вызначаліся пераважай крайне малапрадукцыйнае дробнае і драбнейшае гаспадаркі, а цяпер будуць вызначацца паскораным разьвіцьцём калгасаў і саўгасаў, якія ўяўляюць з сябе новы тып гаспадаркі, нябачаны ў гісторыі чалавецтва і ўпяршыню адкрыты вопытам гаспадарчага будаўніцтва ў СССР.

У адпаведнасьці з гэтым зьезд лічыць неабходным:

1. Карэнным чынам перагледзець пяцігадовы плян разьвіцьця сельскае гаспадаркі, выходзячы з тэмпаў калектывізацыі, прадугледжаных пастановай Цэнтральнага Камітэту ад 5 студзеня і поўнасьцю пацьверджаных на вопыце, з тым, каб на гэтай аснове забясьпечыць побач з паскораным разьвіцьцём збожжавых і тэхнічных культур *узьняцьце і ўзмоцненае разьвіцьцё жывёлагадоўлі* шляхам перш за ўсё арганізацыі спэцыяльных жывёлагадоўчых саўгасаў аналёгічна збожжасаўгасам, масавага стварэньня высокатаварных калгасных фэрм і хуткага пашырэньня кармавой базы.

2. Побач з няўхільным захаваньнем прадугледжаных пастановамі партыі ільгот калгасам і калгасьнікам, павялічыць у 1930-31 г. крэдыты калгасам у два разы супроць бягучага году, г. зн. да 1 млрд. рублёў.

3. Забясьпечыць засеў па лініі Збожжатрэсту ў будучым годзе ня менш $4^1/_2$ млн гект. і падрыхтоўку да пасеву 1932 г. 9 млн. гект.

4. Забясьпечыць таварны выхад па лініі Сьвінаводтрэсту сьвіней у 1930-31 г. ня менш 400 тыс., у 1931-32 г. ня менш 3 млн. і ў 1932-33 г. ня менш 7 млн. галоў.

5. Давесьці лік галоў статку „Жывёлавода“ ў 1930-31 г. да 3,2 млн. галоў, у 1931-32 г. да 5,5 млн. галоў, у 1932-33 г. да 9—10 млн. галоў.

6. Разьвіваць жывёлагадоўчыя галіны ў калгасах, накіраваўшы на гэту справу значную частку с.-г. крэдытаў.

7. Маючы на ўвазе, што спалучэньне трактару з коньмі на палявых работах будзе мець месца яшчэ шэраг год, неабходна дабіцца бераж-

лівых адносін да каня і стварэньня ў адпаведных раёнах спэцыяльных савгасаў і таварыстваў коняводнага напрамку.

8. Даручыць с.-г. Акадэміі імя Леніна распрацаваць пытаньне аб рацыянальным разьмяшчэньні сельскае гаспадаркі на тэрыторыі СССР па галінах, культурах; аб замене менш выгодных культур больш выгоднымі культурамі; аб забясьпечаньні СССР магчымасьці самастойнага забясьпечаньня галоўнейшымі харчовымі і тэхнічнымі культурамі; аб магчымасьці максімальнага скарыстаньня ў земляробстве мясцовых крыніц энэргіі.

У адпаведнасьці з задачамі, якія ускладаюцца на с.-г. Акадэмію імя Леніна, стварыць для яе работы неабходную тэхнічную базу, якая стаіць на ўзроўні апошніх дасягненьняў навукі, і забасьпечыць яе ўзмацненьне камуністычнымі кадрамі.

9. Разгарнуць работы Калгаснага Інстытуту з тым, каб яго работа забясьпечыла сваячасовую навукова-апэрацыйную распрацоўку форм і мэтадаў калгаснага будаўніцтва і тэарэтычнае абагуленьне вопыту месц.

10. Забясьпечыць поўнае выкананьне праграмы трактара- і камбайна-будаўніцтва, выраб запасных часьцей і трактарнага прычапнога інвэнтару ў разьмерах, вызначаных пастановамі ЦК, а таксама ўзмацненьне вытворчасьці мінэральных угнаеньняў і ў асаблівасьці сродкаў барацьбы са шкоднікамі.

Асаблівую ўвагу пры гэтым зьвярнуць на палепшаньне якасьці трактарнага інвэнтару.

### IV. Аб падрыхтоўцы масавага калгаснага руху ў нязбожжавых раёнах

Зьезд зварочвае ўвагу ўсіх партыйных арганізацый нязбожжавых раёнаў, а таксама ўсходніх рэспублік і вобласьцяй СССР на неабходнасьць разгортваньня ў гэтых раёнах вялікай падрыхтоўчай работы да масавага калгаснага руху.

Гэта падрыхтоўчая работа перш за ўсё павінна складацца з:

1. Разьвіцьця каапэрацыйнае арганізацыі бядняцкага і серадняцкага сялянства, пачынаючы з пасялковых таварыстваў і спэцыяльных вытворча-збытавых каапэрацыйных аб'яднаньняў.
2. Масавага распаўсюджваньня таварыстваў па грамадзкай апрацоўцы зямлі, як першапачатковай формы калгасу, пераходнай да арцелі.
3. Усямернага замацаваньня існуючых калгасаў і разгортваньня сеткі машынна-трактарных станцый.
4. Насаджэньне савгасаў асабліва бавоўняных, малочна-гародных, ільняных, сьвінагадоўчых і аўцагадоўчых.
5. Узмоцненага наступленьня на кулака ў сэнсе далейшага абмежаваньня яго эксплёататарскіх тэндэнцый і яго росту пры ўсямерным разьвіцьці арганізацыі беднаты і батрацтва.
6. Узмацненьне работы па выпрацоўцы тыпу буйнае гаспадаркі ў галінах, характэрных для даных раёнаў, і арганізацыі вырабу машын, якія дапамагаюць пастаноўцы такой гаспадаркі (машыны для сяўбы, апрацоўкі і ўборкі ільну, канапель бавоўны, пасадкі і апрацоўкі бульбы, машына-гародны інвэнтар, машыны для буйных малочных фэрмаў і г. д.).

Зьезд зварочвае асаблівую ўвагу партыйных арганізацый так званай „спажываючай паласы“ на тое, што на аснове разьвіцьця калгасаў

і саўгасаў партыя павінна ў бліжэйшыя-ж гады разгарнуць сельскую гаспадарку спажываючай паласы, ператварыўшы яе ў важнейшы малочна-гародна сьвінагадоўчы і ільняны раён.

Асаблівую ўвагу зварочвае зьезд на абсалютную недапушчальнасьць недаацэнкі існуючых у гэтых раёнах калгасаў толькі таму, што іх налічваецца ўвесну г. г. 7-8 проц. замест тых дзесяткаў процантаў, якія лічыліся раней на паперы. Зьезд лічыць недапушчальным ігнараваньне гэтых калгасаў, маючы на ўвазе практыку разьвіцьця калектывізацыі збожжавых раёнаў, дзе ў мінулым годзе лік калгасаў не перавышаў цяперашняга ліку калгасаў у спажываючай паласе і дзе гэты невялікі лік калгасаў адыграў важнейшую ролю ў далейшым разгортваньні ўсяго калгаснага руху, паколькі ў асобе калгасаў стварыліся ўзоры і прыклады для ўсяе рэшты сялянскай масы і ў іх выкоўваліся кадры, якія сталі пры далейшым разгортваньні калгаснага руху арганізатарамі масавай калектывізацыі.

## V. Узаемаадносіны калгасаў з індывідуальнікамі

Улічваючы ўсю складанасьць надыходзячага ў бліжэйшыя гады поўнага пераходу ад дробнае індывідуальнае гаспадаркі да буйнае калектыўнае, у асаблівасьці пры наяўнасьці па вялізарнай тэрыторыі Ўсходу СССР да-капіталістычнага ўкладу і адсутнасьці яшчэ масавых узораў буйнае гаспадаркі ва ўсіх нязбожжавых раёнах,—зьезд папярэджвае партыйныя арганізацыі ад якога б там ні было ігнараваньня індывідуальнае гаспадаркі, якая ў шэрагу раёнаў краіны будзе існаваць яшчэ адносна доўга.

Устанаўленьне правільных адносін да індывідуальнае гаспадаркі, якія-б у далейшым палягчалі калектывізацыю, становіцца ў значнай меры пытаньнем аб узаемаадносінах калгасьнікаў з індывідуальнікамі. Узьнікшыя вясною гэтага году ў шэрагу месц, у выніку адходаў з калгасаў і змаганьня найбольш актыўных і адданых справе калектывізацыі калгасьнікаў за захаваньне калгасаў, абвостраныя адносіны паміж калгасьнікамі і індывідуальнікамі зьяўляюцца тормазам далейшае калектывізацыі. Таму зьезд даручае ўсім партыйным арганізацыям дабіцца таго, каб ва ўзаемаадносінах калгасьнікаў з індывідуальнікамі ўстанавілася правіла: не цкаваць індывідуальнікаў, а аказваць ім дапамогу і ўсякім чынам прыцягваць да калгасаў.

Зьезд катэгорычна асуджае часта меўшае месца ігнараваньне каапэрацыйнае формы арганізацыі індывідуальных беднякоў і сераднякоў сялян, разьвіцьцё якой зьяўляецца адным з важнейшых умоў паступовага пераходу да калгасаў. Зьезд лічыць груба ня правільнай, меўшую месца ў шэрагу раёнаў слабага калгаснага руху, фактычную ліквідацыю нізавых форм прасьцейшай каапэрацыйнай арганізацыі (пасялковыя таварыствы і спэцыяльныя вытворча-збытавыя таварыствы) і прапануе ўсім партыйным арганізацыям безадкладна забясьпечыць аднаўленьне і далейшы рост каапэрацыйнае арганізацыі, аказваючы ёй адпаведную арганізацыю і грашовую дапамогу.

## VI. Арганізацыйныя пытаньні калгаснага руху

1. Стварэньне калгасных кадраў зьяўляецца аднэй з важнейшых умоў замацаваньня калектывізацыі. У аснову работы над стварэньнем калгасных кадраў павінна быць пакладзена вылучэньне новых кадраў

з масы самiх калгасьнiкаў. Гэта-ж зьяўляецца важнейшай задачай, накiраваных на работу ў калгасы 25.000 рабочых, з якiх многiя ўжо пасьпелi праявiць сябе лепшымi арганiзатарамi калгаснае гаспадаркi i заваявалi аўтарытэт сярод калгасьнiкаў, асаблiва ў тых выпадках, калi яны ставiлi сваёй галоўнай задачай дапамагаць вырашчваньню новых кадраў з самiх калгасьнiкаў. Партыя выходзiць з таго, што ў блiжэйшы год-два з масы калгасьнiкаў, бязумоўна, выдзяляцца пад узьдзейнасьцю перадавых рабочых дзесяткi тысяч сапраўдных арганiзатарскiх талентаў, якiя стануць сапраўднымi будаўнiкамi сацыялiзму ў сельскай гаспадарцы.

Галоўнымi задачамi ў гэтай галiне зьяўляецца:

а) арганiзаваць сыстэму вылучэньня на кiраўнiчую работу кадраў з асяродзьдзя самiх калгасьнiкаў;

б) паставiць масавую каротка-тэрмiновую падрыхтоўку калгасных кадраў пры калгасах, школах сялянскае моладзi, ВНУ, с.-г. тэхнiкумах, школах другой ступенi i машына-трактарных станцый;

в) шырэй прыцягваць у сельска-гаспадарчыя ВНУ i тэхнiкумы калгасную моладзь;

г) шырока разгарнуць масавую палiтыка-асьветную работу ў калгасах;

д) шырока разгарнуць сацспаборнiцтва ва ўсёй рабоце калгасаў, а таксама арганiзацыю i работу вытворчых нарад i дэлегацкiх сходаў у калгасах;

е) арганiзаваць у калгасах дэлегацкiя сходы калгасьнiц. Пабудаваць iх работу такiм чынам, каб забясьпечыць вырашчваньне калгасных кадраў з жанчын i iх вылучэньне.

2. Цяперашнi стан каапэрацыйнай арганiзацыi i каапэрацыйнага апарату, якiя адарвалiся ад абслугоўваньня масы i iндывiдуальнiкаў, i ў той-жа час нi ў якой меры не прыстасавалiся да справы арганiзацыйнага i вытворчага кiраўнiцтва калгасамi, зьяўляецца недапушчальным. У адпаведнасьцi з гэтым зьезд лiчыць неадкладным карэнны перагляд усяе арганiзацыйнае структуры калгасна-каапэрацыйнае сыстэмы, для чаго неабходна:

а) функцыi арганiзацыйна-вытворчага кiраўнiцтва калгасамi (кадры, арганiзацыя працы, тэхнiчная база) у раёне сканцэнтраваць у адносiнах усiх калгасаў раёну ў адзiным раённым калгассаюзе. Функцыi вытворчага абслугоўваньня i кiраўнiцтва ў адносiнах iндывiдуальных гаспадарак i прасьцейшых аб'яднаньняў, а таксама функцыi загатоўчыя ў адносiнах усiх вiдаў гаспадарак сканцэнтраваць у раённым сельска-гаспадарчым каапэрацыйным саюзе. Ажыцьцяўленьне гэтых мерапрыемстваў пачаць з краёў, вобласьцяй i раёнаў са значным процантам калектывiзацыi;

б) лiквiдаваць прамежныя акруговыя зьвеньнi калгасна-каапэрацыйнае сыстэмы, рашуча ўзмацнiўшы за iх кошт нiзавыя зьвеньнi калгасна-каапэрацыйнае сыстэмы;

в) перагледзець лiк спэцыяльных цэнтраў з захаваньнем спэцыяльных цэнтраў толькi па важнейшых галiнах сельскае гаспадаркi;

г) зрабiць рашучае скарачэньне адмiнiстрацыйнага апарату каапэрацыi i спынiць самымi рашучымi мерамi разбуханьне апарату ў калгасах, ускладаючы выкананьне адмiнiстрацыйных функцый у калгасах, як правiла на выбарных асоб з асяродзьдзя калгасьнiкаў.

3. Работа груп беднаты ў першапачатковых формах калектыўных гаспадарак павiнна быць палепшана i ўзмоцнена, паколькi, толькi аба-

піраючыся на беднату, можна забясьпечыць пераход прасьцейшых аб'яднаньняў на вышэйшую ступень калектывізацыі. Партыйныя арганізацыі ў калгасах павінны забясьпечыць такую пастаноўку работы груп беднаты, каб яны ня толькі абаранялі непасрэдныя інтарэсы беднаты, але-ж і дапамагалі замацаваньню саюзу рабочае клясы і вясковае беднаты з сераднякамі.

4. Унесьці патрэбныя зьмены ў прыкладны статут сельска-гаспадарчай арцелі, паводле паказаньняў практыкі і вопыту работы арцеляй.

5. Распрацаваць прыкладны статут ТОЗ і камуны.

У аснову прыкладнага статуту ТОЗ пакласьці аб'яднаньне працы членаў ТОЗ у часе сяўбы і ўборкі і набыцьцё за кошт прыбыткаў таварыства складаных машын і іншых сродкаў вытворчасьці агульнага ўладаньня і карыстаньня.

У аснову прыкладнага статуту камуны пакласьці поўнае абагуленьне ўсіх бяз выключэньня сродкаў вытворчасьці, а таксама паступовае стварэньне ўстаноў і прадпрыемстваў па абслугоўваньню патрэб калгасьнікаў (сталоўка, грамадзкія жыльлёвыя будынкі і г. д.), ні ў якім выпадку не падменьваючы гэтых задач непатрэбным і шкодным драбязговым абагуленьнем быту.

* * *

Партыі ўдалося ў мінулы паміж XV і XVI зьездамі пэрыяд дабіцца рашучага пералому ў справе калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

Калі канфіскацыя зямлі ў абшарнікаў была першым крокам Кастрычнікавай рэволюцыі на вёсцы, дык пераход да калгасу зьяўляецца другім і пры тым рашаючым крокам, які падкрэсьлівае важнейшы этап у справе пабудовы фундаманту сацыялістычнай грамады ў СССР.

Зразумела, што такі найвялікішы пераварот у жыцьці дзесяткаў мільёнаў людзей, як пераход ад індывідуальнае дробнае сялянскае гаспадаркі да буйнае грамадзкае гаспадаркі, нямінуча, зьвязаны з шэрагам вялізарных цяжкасьцяй, якія выклікаюцца абвастрэньнем супраціўленьня клясавых ворагаў унутры краю і наяўнасьці капіталістычнага абкружэньня звонку. Таму толькі бюракраты і чыноўнікі, а не рэвалюцыянэры, могуць думаць, што пераварот такога значэньня, які датычыць самых асноў гаспадаркі і жыцьця вялізарных мас, можа быць ажыцьцёўлены бяз цяжкасьцяй, без абвастрэньня клясавага змаганьня і зьвязаных з гэтым хістаньняў серадняка.

Кулак яшчэ не дабіты і будзе аказваць шалёнае супраціўленьне пераможнаму руху калектывізацыі. Ліквідацыя кулацтва, як клясы, патрабуе доўгага і ўпартага змаганьня з кулаком, сыстэматычнае работы над правядзеньнем калектывізацыі і павінна разгортвацца ў поўнай адпаведнасьці з ажыцьцяўленьнем суцэльнай калектывізацыі і як яе неадлучная часьць.

У арцелі не завяршаецца, а толькі пачынаецца справа стварэньня новай грамадзкай дысцыпліны, справа навучаньня сялян сацыялістычнаму будаўніцтву. У калгасе сяляне канчаткова зжывуць дробна-ўласьніцкую псыхалёгію, прагнасьць да прыватна-гаспадарчага накапленьня, атрыманую ў спадчыну ад пакаленьняў дробных прыватных уласьнікаў, толькі ў выніку гадоў упартай работы над падвядзеньнем пад калгасы базы буйнае мэханізаванае гаспадаркі, упартае работы над стварэньнем кадраў з асяродзішча калгасьнікаў і культурнага ўздыму ўсяе калгаснае масы.

Партыя дабілася рашаючага пералому ў справе калектывізацыі дзякуючы таму, што былі разгромлены як контр-рэволюцыйны трацкізм, палітыка якога нямінуча вяла да разрыву змычкі з асноўнымі масамі сялянства, так і правыя ўхілістыя з іх палітыкай адмаўленьня ад індустрыялізацыі краю, якую праводзіць партыя, адмаўленьне ад насаджэньня савгасаў і разьвіцьця калгасаў, з іх палітыкай капітуляцыі перад кулацтвам.

Партыя дабілася рашаючага пералому ў справе калектывізацыі, няўхільна ажыцьцяўляючы палітыку індустрыялізацыі краю, тым самым ствараючы ўмовы для разьвіцьця вытворчых форм змычкі з сялянствам і ўзмацняючы саюз рабочае клясы і сялянскай беднаты з серадняком.

Толькі такім шляхам партыя магла стварыць неабходныя ўмовы для калгаснага будаўніцтва. Толькі такім шляхам партыя даб'ецца ня толькі замацаваньня дасягнутых посьпехаў, але і закончыць справу калектывізацыі, заклаўшы тым самым фундамэнт сацыялістычнага грамадзтва.



Першая савецкая сіласарэзка, выпушчаная Гомсельмашам.

„*Барацьба за хлеб — барацьба за сацыялізм*“ (*Ленін*).

# У тэрміны выканаць хлебазагатоўчыя пляны

Вялікія посьпехі, якія мы маем у калектывізацыі сельскай гаспадаркі, даюць ужо свае вынікі на хлебазагатоўчым фронце. Загатоўкі ў ліпені бягучага году далі па СССР рэкордную лічбу за ўсе мінулыя гады ў гэты месяц, а за палову жніўня загатоўкі далі больш, чым за ўвесь жнівень мінулага году. За ліпень і жнівень месяц шмат якія колгасы, некаторыя вёскі і нават цэлыя раёны ў СССР выканалі, а некаторыя нават перавыканалі свае гадавыя заданьні па хлебазагатоўках.

Такое-ж становішча мы маем і ў нас, у БССР, у некаторых раёнах. Шмат якія калектыўныя гаспадаркі вытваралі абмалот збожжа тут-жа разам з уборкай і адразу-ж лішкі таварнага хлеба, праз арганізацыю чырвоных абозаў—здавалі дзяржаве.

Сацыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі БССР у сёлетнюю хлебазагатоўчую кампанію здасьць прыблізна каля *50 працантаў* усяго збожжа, якое будзе загатоўлена ў Савецкай Беларусі. Паводле арыентыровачных падлікаў Белкалгасцэнтру, калектыўныя гаспадаркі ў гэтым годзе здадуць ня менш 30 тысяч тон па заключаных кантрактацыйных дагаворах з абагуленых пасеваў. Гэта гаворыць аб тым, што калгаснае будаўніцтва дасягнула ў сваім разьвіцьці такіх вытворчых рэсурсаў, якія падводзяць моцную матар'яльную базу пад сацыялістычнае будаўніцтва і пад яшчэ больш пасьпяховае змаганьне з капіталістычнымі элемэнтамі ў вёсцы.

Усе гэтыя лічбы і факты, ушчэнт, разьбіваюць апартуністычныя прароцтвы і „тэорыі“ аб дэградацыі сельскай гаспадаркі.

Усё гэта яшчэ раз гаворыць за тое, што толькі праз арганізацыю буйных калектыўных гаспадарак магчыма вырашыць збожжавую праблему і, „адсюль задача насаджэньня саўгасаў і аб'яднаньня дробных сялянскіх гаспадарак у буйныя калектыўныя гаспадаркі, *адзіны* шлях вырашэньня праблемы сельскай гаспадаркі наогул, збожжавай праблемы ў асаблівасьці“ (Сталін).

Але калі мы гаворым аб посьпехах хлебазагатовак, дык гэта зусім ня значыць, што ў гэтай найважнейшай кампаніі мы ня маем недахопаў. Разам з цадатным, маецца шэраг буйнейшых недахопаў, на барацьбу з якімі трэба мабілізаваць усю савецкую грамадзкасьць.

У шэрагу месц хлебазагатоўкі праходзяць самацёкам, без належнага кіраўніцтва. Камісіі садзейнічаньня пры сельсаветах бязьдзейнічаюць. Сярод некаторых працаўнікоў, якія непасрэдна зьвязаны з хлебазагатоўкамі—пануе шкодная думка: „навошта сьпяшацца, дайце раней скончыць уборку ураджаю, а пасьля возьмемся і за загатоўкі“ (Бабруйшчына). А ў Капаткевіцкім раёне кулацкая частка вёскі ў канцы жніўня не прыступіла яшчэ к здачы хлебных лішкаў. Асобныя працаўнікі сельсаветаў у гэтым раёне заяўляюць, што ў іх сельсаветах „кулакоў няма“. Такім праваапартуністычным разважаньням не даюць адпор ні мясцовыя партячэйкі, ні нават РК і РВК.

Дрэнна справа абстаіць у некаторых мясцох і з памяшканьнямі пад ссыпку загатаўляемага збожжа. Шмат ёсьць выпадкаў, калі прыбывае з калгасу чырвоны абоз, а загатоўчыя арганізацыі ня ведаюць, куды ссыпаць збожжа. А там, дзе ёсьць памяшканьні для ссыпкі, у некаторых мясцох загатоўчы апарат такімі тэмпамі працуе, што затрымлівае калгасьнікаў з прыёмкай збожжа па некалькі гадзін, нават з раніцы і да позьняга вечару. Усё гэта вельмі шкодна адбіваецца на тых калгасьніках, якія прывозяць здаваць хлеб. Шкодна адбіваецца на агульным ходзе хлебазагатовак.

Усе памылкі, недахопы на загатоўчым фронце, нядбайныя адносіны асобных працаўнікоў да гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі,—скарыстоўвае наш клясавы вораг у вёсцы—кулак. Кулак шалёна выступіў на загатоўчым фронце супроць мерапрыемстваў партыі і ўлады. Асабліва актыўна выступаюць кулакі з агітацыяй у тых мясцох, дзе не праводзіцца ніякай работы сярод калгасьнікаў і асабліва сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі аб значэньні хлебазагатовак, дзе мясцовыя арганізацыі спадзяюцца на самацёк. У Пухавіцкім, напрыклад, раёне, дзякуючы адсутнасьці растлумачальнай работы, кулакі агітуюць беднату і сераднякоў, каб апошнія не здавалі свае лішкі хлеба дзяржаве.

Адсюль задача: шырока разгарнуць растлумачальную работу сярод калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі аб значэньні хлебазагатоўчай кампаніі, бязьлітасна біць па тых работніках, якія ў сваёй працы дапамагаюць кулаку. Вакол хлебазагатовак арганізаваць грамадзкую думку беднякоў і сераднякоў на барацьбу са шкодніцтвам кулацтва.

Трэба памятаць, што посьпех хлебазагатовак будзе залежыць ад таго, наколькі будзе ўсьвядомлена кожным калгасьнікам, кожным бедняком і серадняком значэньне загатоўчай кампаніі. Толькі цьвёрдае правядзеньне генэральнай лініі партыі, рашучая барацьба з праявамі правага апартунізму, з „левымі“ загібамі і прымірэнцтвам да іх на загатоўчым фронце—зьяўляюцца асновай пасьпяховага правядзеньня хлебазагатовак.

На хлебазагатоўчым фронце ўсе калгасы павінны быць у авангардзе і цягнуць за сабой аднаасабовыя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі.

Хлебазагатоўчая кампанія павінна яшчэ больш замацаваць калгасны рух для далейшага наступленьня па шляху сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. І там, дзе праведзена належная работа аб значэньні хлебазагатоўчай кампаніі там зараз ужо маецца прылів у калгасы, арганізоўваюцца новыя калгасы. У Заслаўскім, напрыклад, раёне ў вёсцы Навашына, пасьля таго, як партыйная ячэйка растлумачыла сялянам аб хлебазагатоўках,—бедната і сераднякі пажадалі арганізавацца ў калгас. З пераважнай часткі гэтай вёскі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак арганізаваўся калгас, які зьяўляецца першым на тэрыторыі данага сельсавету.

Посьпехі загатовак у калгасах будуць залежыць яшчэ і ад таго, як правільна будзе ажыцьцяўляцца пастанова ўраду адносна абавязковых норм здачы ўраджаю. Згодна пастановы, кожны калгас БССР павінен здаць з сваіх таварных лішкаў, паводле кантракцыйных дагавароў, у абавязковым парадку ня звыш $1/8$, альбо 12,5 процантаў валавога ўраджаю. Нормы здачы збожжа для кожнага калгасу вызначаюцца Райвыканкомам пры ўдзеле калгаснай сыстэмы, у поўнай адпаведнасьці з пастановай ураду.

Трэба зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на тое, каб пры вызначэньні норм здачы збожжа не стварыць напруджанага становішча ў калгасах з харчовымі і фуражнымі культурамі. Для гэтага трэба дасканала вывучаць ураджайнасьць, усе патрэбы кожнага калгасу.

У некаторых калгасах звыш норм збожжа, якія павінны быць здадзены дзяржаве, будуць значныя яшчэ дадатковыя таварныя лішкі, якія знаходзяцца ў поўным распараджэньні калгасаў і калгасьнікаў. Продаж калгасамі дадатковай колькасьці таварнага збожжа павінен праводзіцца толькі ў парадку добраахвотнай згоды калгасьнікаў з хлебазагатоўчымі арганізацыямі. Задача заключаецца вядома ў тым, каб шляхам шырокай растлумачальнай работы сярод калгасьнікаў і прэміраваньня калгасаў прамысловымі таварамі, сельска-гаспадарчымі машынамі, накіроўваць гэтую дадатковую колькасьць хлеба ў рэчышча плянавых хлебазагатовак.

Катэгарычна трэба падкрэсьліць, што як калектыўная ўборка і абмалот неабагуленых азімых пасеваў, так і арганізацыя калектыўнай здачы збожжавых лішкаў павінна праводзіцца выключна ў парадку добраахвотнай згоды кожнага калгасьніка. Ні ў якім разе ня трэба дапускаць ніякага адміністрацыйнага націску ў атрыманьні таварных лішкаў збожжа. Трэба весьці рашучую барацьбу з тымі, хто пажадае праводзіць гэта адміністрацыйнымі мерамі, замест грамадзкай ініцыятывы і растлумачальнай работы.

„Хлебазагатоўчая кампанія, якая зараз пачалася па БССР, набывае выключна важнае гаспадарча-палітычнае значаньне“ (з дырэктывы ЦК КП(б)Б). Таму на правядзеньне яе павінна быць зьвернута асаблівая ўвага ўсіх мясцовых партыйных, савецкіх, прафэсыянальных і грамадзкіх арганізацый.

Безадкладна трэба ажывіць работу камісій садзейнічаньня хлебазагатоўкам. Мабілізаваць шырокія масы калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкае сялянства на пасьпяховае правядзеньне хлебазагатовак, на барацьбу з кулацтвам, якое імкнецца сарваць пляны хлебазагатовак.

Бязьлітасная барацьба з тымі працаўнікамі, якія імкнуцца затрымаць разгортваньне хлебазагатовак да сканчэньня ўборкі ўраджаю.

Разгарнуць шырокую работу па мабілізацыі бядняцка-серадняцкіх мас на арганізацыю чырвоных абозаў па здачы таварных лішкаў дзяржаве. Калгасы павінны ісьці наперадзе ў гэтай справе. Шырока разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва па выкананьню хлебазагатоўчых плянаў. Трэба прымусіць кулака, каб ён здаў дзяржаве хлеб.

Пляны хлебазагатовак павінны быць выкананы поўнасьцю і ў тэрмін.

С.

**„... вырашэньне збожжавай праблемы зьяўляецца першай па чарзе задачай у шэрагу іншых праблем сельскай гаспадаркі“.**

**(СТАЛІН).**

# Першыя чырвоныя абозы

Партыйныя, камсамольскія і прафсаюзныя арганізацыі Брагінскага раёну, Гомельскай акругі, сёлета па ўдарнаму падрыхтаваліся да ўборачнай і асеньняй пасяўной кампаніі. Праведзена растлумачальная праца на раённай канфэрэнцыіі груп беднаты, райпартсходзе, раённым сходзе жанчын і на агульных сходах прафсаюзных арганізацый. Ва ўсіх арганізацыях створаны ўдарныя брыгады, у якіх налічваецца да 500 чалавек. Брыгадамі кіруе раённы штаб.

У дні адпачынку брыгады дапамагалі калгасам па выпалваньню пасеваў ад пустазельля, па ўборцы збожжа, сенажаці і інш. У абедзены перапынак брыгады праводзілі культпрацу па растлумачэньню тэзісаў т. Якаўлева, аб парадку разьмеркаваньня ўраджаю і г. д. Брыгадамі прапрацована ў калгасах 500 рабочых дзён. У калгасах, пры дапамозе брыгад таксама арганізаваны брыгады з саміх калгасьнікаў. Калгасьнікі былі вельмі задаволены прыездам брыгад.

Калгасы—адначасова з уборкай пачалі малацьбу. Ужо пацягнуліся першыя чырвоныя абозы са збожжам новага ўраджаю: калгасам „КРАІНА САВЕТАЎ“ здана 1007 клгр., калгасам „Сьпярыжжа“—2022 клгр., калгас „Чырвоны Сьцяг“—1900 клгр. ячменю. Чырвоныя абозы былі спатканы ў раёне ўсімі партыйнымі, савецкімі і профсаюзнымі арганізацыямі. На месцы сустрэчы адбыўся лятучы мітынг. Калгасьнікі запэўнівалі, што ўборачную і асеньнюю пасеўную кампанію яны выканаюць па-бальшавіцку, сваячасова, як выканалі і вясеньнюю пасеўную кампанію.

**Пароцкі.**



Сябры калгасу „Спартак“, Батайскага раёну, па дарозе на ссыпны пункт.

# ШЫРЭЙ ФРОНТ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

## Расквітнела „Чырвоная Зорка“

(*Нарыс*)

Кілёмэтры паўтары ад Полацку, на невялічкім узгорку, абросшы зелянінаю, красуецца былы панскі маёнтак Экімань—цяпер камуна „Чырвоная Зорка“.

Высяцца над берагам Заходняе Дзьвіны прыгожыя будынкі, чаруюць вока кожнага праходзячага міма камуны. Па полю разносіцца



Калектыўнае ўзорваньне зямлі.

гул трактараў, напяваючы аб новым жыцьцё. Гэты напеў разносіцца па вёсках, дзе пакуль што яшчэ вузкія палоскі з палыновымі межамі.

Глядзіш цяпер на расквітнеўшую камуну і здаецца казкай нейкай мінулае, тое, калі маёнтак Экімань быў панскай дачай. Кожнае лета прыяжджаў з гораду пан у свае наседжанае, пабудаванае батрацкімі рукамі гняздо, і любаваўся хараством прыроды, удыхаў пахі расквітнеўшае зеляніны. Адпачываў пан, хадзіў па дарожках саду, а тымчасам нанятыя бедн яркі-сяляне і батракі, узорваючы чужыя загоны, працуючы ад цёмнага да цёмнага, праклінялі сваю долю.

Кастрычнікавая рэвалюцыя чырвонай мятлой пагнала пана з цёплага гнязда. Зьнік ён кудысьці за мяжу і маёнтак застаўся тым, хто яго будаваў.

Зараз тут камунары ажыцьцяўляюць вялікія ленінскія пляны па пабудове сацыялізму. Гул трактараў і штодзенныя камунарскія гудкі клічуць да калектыўнай працы, да новага жыцьця акаляючыя працоўныя вёскі. Камуна паказвае, што толькі калектыўны шлях зьяўляецца шляхам, які вывядзе з гора і бядоты вялікія сялянскія працоўныя масы.

## Куратнік стаў хатай

У 1924 годзе, аднойчы ўлетку 6 беднякоў сяла Экімань вырашылі са сваімі сем'ямі: жыць і весьці працу супольна.

— Даволі,—гаварылі яны,—нагараваліся мы і бацькі нашыя. Мабыць такое от жыцьцё вывядзе нас з цяжкага становішча, можа толькі такім чынам мы зможам сваімі рукамі дабіцца лепшай долі.

Вырашана—зроблена. Другім-жа днём сяляне ўзяліся за ажыцьцяўленьне задуманага пляну. Сабралі сваю бедную маемасьць і рушыліся ў маёнтак, будынкі якога былі разбураны белапалякамі ў час іхняга наступленьня на Полацак.

Ня лёгка было з самага пачатку. Нават жыць і то недзе было. Рашылі часова пасяліцца ў куратніку. Цесна, брудна, няпрытульна, але нічога не паробіш. Інакш недзе падзецца. Прышлося жыць пакуль што надзеямі на будучыню. Камунарская маемасьць уся складалася з аднэй каровы і аднаго каня.

Узяліся за апрацоўку зямлі. Узаралі і засеялі азімым жытам цаліну. Калі-ж прышла зіма, камунары не захацелі дарэмна губляць часу. Правялі рамонт старай лесапілкі і пусьцілі яе ў ход. Лесапілка была галоўнай крыніцай для жыцьця камунараў. Сялянам і гарадзкім арганізацыям рэзалі дошкі і ад гэтага мелі сабе кавалак хлеба. Малака есьці ня прыходзілася, бо адна карова магла з горам папалам задаволіць толькі малых камунарскіх дзяцей.

## Прышлі інакшыя гады

Камунары цярпелі цяжкасьці цэлы год. Калектыўна зьняўшы свой першы ўраджай, камунары забясьпечылі сябе хлебам. Узялі крэдыт, закупілі насеньне, жывёлу, атрамантавалі старыя разбураныя будынкі, набылі трактар, сельска-гаспадарчыя прылады—і зажылі па-інакшаму, па-чалавечаму. Праз два гады на камунарскіх палёх гучна загудзеў першы трактар, заклікаючы ўсіх акаляючых аднаасобнікаў да калектыўнае працы.

Шэрагі камунараў сталі расьці. З 6 сем'яў—камуна вырасла да 40 сем'яў. Матар'яльны грунт быў падрыхтаваны. Сталі будаваць сьвінарнік, дзіцячыя ясьлі, пуню і сьвіран, куды і зараз ссыпаюць насеньне. Абсталявалі сталоўку для калектыўнага харчаваньня. Будаўніцтва заняло першае месца ў камунарскай працы.

У мінулым годзе камуна паставіла сабе мэтай: на бліжэйшы час мець сіласную вежу. Шчыра ўзяліся каменшчыкі за работу. Вялікая вежа з кожным днём расла і расла. 20 тысяч пудоў зялёнага корму ўмяшчае цяпер сіласная вежа. Са смакам ядуць каровы сілас і ўдой малака стаў у некалькі разоў большы, чым раней.

Шмат мае дасягненьняў камуна, за шэсьць год свайго існаваньня. Даўно зьнікла з палёў крывая сошка. Маецца малатарня, якая мало-

ціць усё зерне і насыпае хлеб у мяшкі. Чатыры жняяркі і дзьве касілкі. Ёсьць бульбакапалка. Загоны засяваюцца радавой сеялкай. Машынамі камуна забясьпечана поўнасьцю.

Жывёлагадоўчая частка камуны складаецца з 78 коняй, 187 кароў, 54 сьвіней, 7 быкоў, 160 авечак і 20 цялят. Усё гэта камунары набылі дзякуючы сваёй упартай стараннай працы.



Дзіцячыя яслі.

## Работа праводзіцца па-новаму

Кожнае раньне медныя пявучыя гукі клічуць камунараў на работу. Бадзёрыя—старыя і маладыя—камунары сьпяшаюцца на поле. Кожны камунар па-бальшавіцку выконвае свае абавязкі. Уся камунарская работа разьмяркована паміж ударнымі брыгадамі. 12 ударных брыгад працуюць па розным галінам гаспадаркі: па паляводзтву, жывёлаводзтву, па шорніцтву, па гародніцтву, па плотніцтву і інш.

Шырока ўжываецца мэтад сацыялістычнага спаборніцтва. Партыйная і камсамольская ячэйкі зьяўляюцца ініцыятарамі і кіраўнікамі гэтае вялікае справы. Па-ўдарнаму праводзіцца ўборачная кампанія. Камунары працуюць, не шкадуючы сіл.

Сярод камунараў шырока разгорнута культурна-выхаваўчая работа. Маецца чырвоны куток, выпісваюцца газэты, ёсьць свая бібліатэка, якой карыстаюцца камунары, скарыстоўваючы кожную вольную хвіліну. Ёсьць пры камуне піанэрскі атрад, які налічвае 25 дзяцей.

## Рабочыя дапамагаюць камунарам

Над камунаю „Чырвоная Зорка" прыняў шэфства Полацкі гарадзкі савет, рабочыя саюзу мэталістаў, нарсувязь і вайсковыя часткі N-скага кавалерыйскага эскадрону. Гарадзкія шэфы трымаюць самую цесную сувязь з камунарамі і аказваюць усямернае садзейнічаньне. Гарсавет

**„Да канца пяцігодкі калектывізацыя СССР у асноўным павінна быць скончана".**

**(СТАЛІН).**

даў камунарам 500 рублёў на здабыцьцё сталёвага каня—трактару. Акрамя гэтага, камунары ўвесь час карысталіся трактарам гарадзкога савету, на якім рабілі перавозку ўсялякіх матар'ялаў.

У час вясеньняй пасеўкампаніі рабочыя-мэталісты накіравалі ў камуну ўдарныя брыгады. Тое-ж самае яны зрабілі і пры правядзеньні ўборачнай кампаніі. У сучасны момант мэталісты рамантуюць другі камунарскі лёкамабіль і папраўляюць жняяркі. Нарсувязь устанавіла тэлефон і радыё. Гарадзкія шэфы цікавяцца жыцьцём камуны і дапамагаюць камунарам.

* * *

...І крынічыць жыцьцё ў камуне „Чырвоная Зорка".

Камунары цьвёрда ўпэўнены, што іхняя праца дасьць плённыя вынікі. Па палёх трактар разносіць подыхі новых весен. І ня гледзячы на кулацкую агітацыю—у камуну кожны год уліваюцца ўсё новыя і новыя сем'і беднякоў і серадднякоў.

**Язэп Саўчанка.**

---

# Калгас „Барацьба" паказвае прыклад

(*Шклоўскі раён*)

Некаторымі калектыўнымі гаспадаркамі вельмі мала зварачваецца ўвагі на ўзаемаадносіны з аднаасабовымі бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі, ня гледзячы на тое, што XVI зьезд УсеКП(б) указаў аб гэтым у сваёй пастанове па пытаньню аб калгасным руху. Дзякуючы таму, што некаторыя калгасы на гэты бок не зварачаюць ніякай увагі—там узаемаадносіны калектыўных гаспадарак з аднаасабовымі бядняцка-серадняцкімі—вельмі дрэнныя.

Дзякуючы гэтаму ў некаторых мясцох былі моманты, калі бедната і серадднякі акаляючых вёсак вельмі коса глядзелі на калгас, лічылі яго якім-та „чужым", які можа пакрыўдзіць і г. д. Вядомая справа, што ворагі калектывізацыі—кулакі і іх дапаможнікі (папы і інш.)—скарысталі гэта. Па вёсках адразу пачалі насіцца чуткі аб тым, што калгас хутка забярэ ў вёсак усю зямлю, а сялян высяляць і г. д. Такія выпадкі былі сярод некаторых калгасаў Шклоўскага раёну.

Зусім іншы малюнак мы назіраем у калгасе „Барацьба" (Брошчынскі сельсавет) і яшчэ некаторых калгасах. Узаемаадносіны гэтых калгасаў з аднаасабовымі бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі добрыя, калгасы аказваюць дапамогу гэтым гаспадаркам. Затое і погляд на гэтыя калгасы зусім іншы, чым на тыя, якія не стараюцца завязаць належнай сувязі з беднякамі і серадднякамі.

Узяць хоць-бы калгас „Барацьба". Управіўшыся з веснавым пасевам на сваіх палёх, калгас зараз-жа дапамог засеяць поле вясковай беднаце і некаторым серадняцкім маламоцным гаспадаркам. Колькі радасьці было ў гэтых сялян!

Адзін бядняк з вёскі Шчацінка ні дзе не знаходзіў у вёсках каня пасадзіць бульбу, ніхто не даваў, а ў калгас ісьці прасіць не адважваўся чамусьці. Але аб гэтым даведаўся старшыня калгасу „Барацьба" таварыш Лубянаў (рабочы „25 тысячнік"), пагутарыў з калгасьнікамі, а на другі дзень у гэтага-ж бедняка сіламі калгасу было абсеена ўсё поле.

— Дзякаваць, дарагія таварышы, што дапамаглі, а то-б засталося поле пуставаць, каб ня вы,—дзякаваў бядняк Новікаў калгасьнікаў.

— Няма чаго, дзядзька, дзякаваць, наша задача—дапамагаць аднаасабовым бядняцкім гаспадаркам, раз яны яшчэ не асазналі карысьці калектыўнай працы,—адказаў старшыня калгасу тав. Лубянаў.



Сеялка ў рабоце.

А праз некаторы час бядняк Новікаў падаў заяву аб прыёме яго ў калгас.

Калгас „Барацьба“ дапамагаў бядняцка-серадняцкім гаспадаркам і ў час уборачнай кампаніі.

Зараз на ўсе калгасы ў раёне зьмяніўся погляд і адносіны з боку бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Раней, напрыклад, на калгас „Друць“ бедната і серадзякі няважна глядзелі, а калі калгас у час уборкі дапамог беднаце ўбраць з поля жыта,—на калгас пачалі глядзець з прыхільнасьцю. Ня сталі верыць кулацкім плёткам.

— Што-ж яно і праўда, што супольна куды лепш працаваць, чым у адзіноту,—кажуць некаторыя сяляне.

Г. Шумілаў.

**„Кулак яшчэ не дабіт і будзе аказваць шалёнае супраціўленьне пераможнаму прасоўваньню калектывізацыі. Ліквідацыя кулацтва, як клясы, патрабуе доўгай упартай барацьбы з кулаком, сыстэматычнай працы над увядзеньнем калектывізацыі і павінна разгортвацца ў поўнай адпаведнасьці з ажыцьцяўленьнем суцэльнай калектывізацыі і як яе неразрыўная частка“.**

(З рэзалюцыі XVI зьезду ЎсеКП(б).

# Працоўныя яўрэі за калектыўнай працай

(*Калгас „Эмес“, Чэрыкаўскі раён*).

На адлегласьці 2-х кілёмэтраў ад г. Чэрыкава, у Макараўцы, паміж маладога хвойніка—некалькі дзесяткаў будынкаў, пакрытых гонтам. Гэта нацыянальны яўрэйскі калгас „Эмес“.

Шэсьць год таму назад 19 беднякоў-яўрэяў распачалі тут калектыўнае жыцьцё. Некаторыя з акаляючых вёсак недаверліва адносіліся тады к арганізаванаму калгасу, гутарылі паміж сабой.

— Будзе карысьці... зямлю толькі спустошаць.

— Ну, вядома. Хіба яўрэі змогуць працаваць на зямлі.

Але арганізаваная бедната не зважала ні на якія гутаркі. Шчыра ўзялася за працу. І калгас „Эмес“ прыкметна пачаў узмацняцца.

Зараз калгас мае: пахаці—29 *га*, сенажаці—58 *га*. Машынамі і землябробскім інвэнтаром калгас забясьпечан, маецца: малацілка з прыводам, сеялка, сартыроўка, бульбакапалка, 2 сенакасілкі, 2 жняяркі, жмыхадрабілка, корнярэзка, 2 акучнікі, 6 жалезных барон „Зыг-Заг“, 6 жал. адналямешных плугоў і 2 двухлямешных. Маецца 50 шт. буйнай рагатай жывёлы (2 бугаі) і 18 шт. маладняка, 8 коняй, 5 штук вялікіх сьвіней і 15 маладняка.

У веснавую сяўбу калгас пасеяў: аўса 3 *га*, вікі—3 *га* і бульбы 8 *га*. Пад жытам—8 *га*. Штучнага ўгнаеньня калгас ня ўжывае таму, што кожны год засявае зялёнае ўгнаеньне (лубін), акрамя гэтага дастаткова хапае гною.

Маецца сад з 350 дарослых дрэў і 50 шт. маладых. Сад трымаецца ў добрым выглядзе (кожную вясну абразаюць сухое суччa і г. д.). Ёсьць свой гадавальнік.

Кожны гад калгас упраўляецца з уборкай ураджаю сваімі сіламі. Часам наймае толькі на касьбу, бо маючы 58 *га* сенажаці—цяжка ўправіцца сваімі сіламі.

Аплата працы ўстаноўлена для ўсіх калгасьнікаў—1 р. 25 к. у дзень.

Калгас закантрактаваў 5 *га* бульбы, 6 цялят і 5 сьвіней. Кожны дзень здае ў горад Чэрыкаў каля 100 літраў раняшняга малака. Каровы даюць шмат малака, бо кормяцца добрымі кармамі і па норме. Набыта аблігацый пазыкі на 500 руб.

Як недахоп у калгасе, трэба лічыць тое, што калгасьнікі амаль ня маюць выхадных дзён.

Культработа праводзіцца ў ленкутку. Тут адбываюцца гутаркі на розныя тэмы. Маюцца шахматы і г. д. Выпісваюцца газэты „Эмес“, „Акцябр“, „Социалистическое Земледелие“, „Беларуская Вёска“, часопісі: „Трыбуна“ і „Шляхі калектывізацыі“. Вельмі бедная бібліатэчка, маецца ўсяго толькі з 100 кніжок.

Вялікую ролю ў жыцьці калгасу адыгрывае насьценгазэта „Пераклічка“ (самі калгасьнікі калектыўна далі гэтую назву ей). У газэце адбіваецца ўся праца калгасу. Высьвятляюцца і добрыя і дрэнныя бакі. Насьценгазэта бязьлітасна крытыкуе недахопы асобных калгасьнікаў. Кожны нумар насьценгазэты абгаварваецца калгасьнікамі, для таго, каб пазбавіцца тых недахопаў, якія адзначае „Пераклічка“.

Некаторыя масавыя пытаньні абгаварваюцца сумесна з калгасам „Шлях Леніна“.

Бачыш, што з іх выходзіць. От яўрэі таксама могуць працаваць на сельскай гаспадарцы.

**Юрка Снытка.**

# Будаўніцтва ў сьвінпрамгасах пад пралетарскі кантроль

Канчатковы плян будаўніцтва сьвінпрамгасаў „Сьвінавода“ па БССР складзен у 8.630.000 рублёў. Для выкананьня програмы разьмяшчэньня сьвінаматак, у адпаведнасьці з пастановай СНК, к 1|X—20.000 штук, трэба пабудаваць 20.000 сьвінамесц для дарослых сьвінаматак, 38.000 сьвінамесц адкормачных, 54 8-мі кватэрных дамы і інш. будаўніцтва.

Для вытварэньня ўсяе будаўнічае праграмы патрэбна вялізарная колькасьць мясцовых і прамысловых будаўнічых матар'ялаў, трэба затраціць 10648 дзён рабочае сілы. Усё будаўніцтва па каляндарным пляне павінна быць скончана па матачніках 1|X, адкормачніках 10|X, жыльлёваму будаўніцтву 1|XI 1930. Першыя сьвінарнікі-матачнікі павінны былі быць здадзены „Сьвінаводу“ не пазьней канца ліпеня,—пачатку жніўня.

Праверка ходу будаўніцтва паказвае, што як прынятыя агульныя тэрміны сканчэньня будаўніцтва, гэтак і асабліва пабудова першых матачнікаў пры застаўленьні сучаснага становішча будаўніцтва выкананы ня будуць. Саўгасы яшчэ не забясьпечаны ўсімі будаўнічымі матар'яламі, нарыхтоўка і вывозка ідуць злачынна марудна. Саўгасы не выкарыстоўваюць яшчэ пастановы СНК аб непасрэдным водпуску праз земорганы недахапаючай драўніны. Зусім не забясьпечаны гонтамі і расьпіловачнымі матар'яламі. Саўгасы, маючыя расьпіловачныя ўстаноўкі, злачынна не загрузілі іх для непасрэднай нарыхтоўкі расьпіловачных матар'ялаў (Бацэвічы, Варонічы і інш.). Не забясьпечаны яшчэ цэглай і вапнай, што поўнасьцю павінна быць вырашана ў акругах.

З дэфіцытнымі будаўнічымі матар'яламі справа абстаіць катастрафічна. Пакуль што яшчэ толькі ёсьць нарады на цэмэнт, але завод імя Вароўскага ўпарта ня выконвае нават і чэрвеньскай нормы. Разнарадка на гатунковае жалеза яшчэ ня выканана. Таксама ёсьць шмат нарадаў на цьвікі, якія аднак ня выконваюцца поўнасьцю ні Рэчыцкімі, ні Аршанскімі заводамі. На мясцох-жа лічаць саўгасы „Сьвінавода“ маскоўскімі і з мясцовых запасаў не забясьпечваюць. „Мы маем толькі для нашых калгасаў“,—гэтак скардзяцца дырэктары, адказваючы ім на хадайніцтвы аб водпуску маючыхся ў раёнах матар'ялаў.

Фактычна к будаўніцтву амаль ня прыступлена яшчэ ў 15 саўгасах „Сьвінавода“. Белкалгасбуд, прыняўшы на сябе поўнасьцю будаўніцтва, яшчэ нават не паслаў і дзесятнікаў. Бяз тэхнічнай-жа дапамогі саўгасы ўжо нарабілі шэраг буйнейшых памылак. Ялово, Зарэч'е, Дзедзолова-Пашкова нават і пры тэхніках дапусьцілі памылкі, якія выклікалі шмат непатрэбных сродкаў, плянуючы пабудову так, што прышлося-б тысячы кубамэтраў зямлі адвозіць з месца пабудовы альбо робяць катлаван, нібы там будуць будавацца трохпавярховыя каменныя будынкі.

Злачынна позьні пачатак будаўніцтва ў сучасным залежыць выключна ад адсутнасьці тэхнагляду, рабочае сілы і няправільнай устаноўкі асобных працаўнікоў саўгасаў і Калгасбуду, гэта — пачынаць працу толькі тады, калі на пляцу будзе поўнасьцю знаходзіцца будаў-

нічы матар'ял. Гэта лінія ня толькі шкодная, але і яўна шкодніцкая. Могуць затармазіць будаўніцтва і марудныя тэмпы падвозкі матар'ялаў і несваячасовае выкананьне нарадаў. Ужо к сёнешняму дню войстра і рэзка выявілася небясьпека ўдаражаньня будаўніцтва, асабліва ў частцы каштоўнасьці рабочае сілы. Тут мы маем бясспрэчныя праявы клясавай барацьбы, калі за працу ў тысячу рублёў патрабуюць 8—10 тысяч рублёў і дадаткова к гэтаму дакумант „аб тым, што ні індывідуальна абкладзены, ні раскулачаны будаўнікі ня будуць". Над растлумачэньнем гэтых разважаньняў ніхто па сур'ёзнаму не працуе. Выяўлена і зусім выразная небясьпека ў адносінах да мясцовых будаўнічых матар'ялаў—саломы і інш. Я ўласна бачыў у Івані добрую салому і ні адзін з саўгасаў Бабруйскай акругі, якія не забясьпечаны гонтам—не заявіў сваіх прэтэнзій на гэтую салому.

Вакол будаўніцтва у сьвінпрамгасах зусім яшчэ ня створана ўвага савецкай грамадзкасьці, мясцовых, партыйных, савецкіх, профсаюзных і грамадзкіх арганізацый. Ліст ЦК КП(б)Б, у якім адзначаецца, што *„на справу разьвіцьця сьвінагадоўлі да гэтага часу не зварочваюць патрэбнай увагі, ня гледзячы на вялікае гаспадарча - палітычнае значэньне разьвіцьця сьвінагадоўлі ў агульнай сыстэме мерапрыемстваў у вырашэньні мясной проблемы"*. Гэта з усёй выразнасьцю падкрэсьліваем.

Дырэктыва ЦК КП(б)Б катэгорычна патрабуе *„зараз-жа трэба ў ва ўсіх сьвінагадоўчых саўгасах і калгасах пачаць будаўніцтва сьвінарнікаў для сьвінаматак, сіласаў і дапаможных будынкаў. У першую чаргу павінна быць зьвернута ўвага на пабудову матачнікаў, ізалятараў і карантынаў, пры гэтым таксама трэба скарыстоўваць і старыя будынкі. Рашуча весьці барацьбу за поўнае скарыстаньне ўсіх матар'яльных магчымасьцяй пры пабудове і асабліва за замену дэфіцытных будаўнічых матар'ялаў мясцовымі. У адносінах да дэфіцытных матар'ялаў (цьвікі, цэмэнт, жалеза) трэба праявіць асаблівую эканомію, выдаткоўваючы іх толькі тады, калі іх зусім нельга замяніць мясцовымі матар'яламі"*.

Пасьля гэтай дырэктывы не застаецца незразумелых пытаньняў. Вакол яе, патрабуючай, каб *„у першую чаргу былі разгорнуты і ўкамплектаваны сьвінаматкамі спэцыялізаваныя сьвінаводныя саўгасы"*, павінна быць безадкладна арганізавана сапраўдная работа па разгортваньні і сваячасовым сканчэньні будаўніцтва. На будаўніцтва сьвінарнікаў па саўгасах „Сьвінавода" Белкалгасбуду ў першую чаргу трэба кінуць наяўны тэхнічны пэрсонал і рабочую сілу, разьвіўшы ўдарную вярбовачную работу поўнага ўкамплектаваньня патрэбнымі кадрамі будаўнікоў. Гэтай задачы павінны рэальна, у мажліва шырокіх разьмерах, садзейнічаць дырэктары і рабочыя камітэты савецкіх гаспадарак. Надзвычайна каштоўна было-б, каб БВА і ЦК ЛКСМ ў найбольш адказныя пункты-гіганты—сьвінпрамгасы накіравалі свае будаўнічыя атрады.

Патрэбна, каб ня толькі былі выкананы задачы эканомнага выдаткаваньня будаўнічых матар'ялаў, але і быў выданы загад ураду—перадаваць дэфіцытныя будаўнічыя матар'ялы і з мясцовых запасаў у першую чаргу тым арганізацыям, якія хутчэй разгорнуць непасрэдна будаўніцтва, каб максімальна поўна выкарыстоўваць іх. Трэба спыніць погляд на саўгасы, як на якія-та чужаземныя, пры якіх яны па-за плянам, па-за нарадах з Масквы, нічога на мясцох атрымаць ня могуць. Трэба павялічыць фонды рэальных матар'ялаў і абавязаць заводы сапраўды пасьля прамысловасьці забясьпечваць будаўнічымі матар'я-

ламі сьвінпрамгасы. Рабочыя заводаў адгружаючых будаўнічы матар'ял павінны ўзяць на сябе кантроль за сваячасовым выкананьнем нарадаў. Саўгасы павінны рашуча ўзмацніць вывазку і падрыхтоўку матар'ялаў, у першую чаргу на 100 проц. выкарыстаўшы свой уласны транспарт. Каапэрацыйныя-ж арганізацыі, нарэшце, павінны на справе прыраўняць саўгасы „Сьвінавода"—да Лесбелу ў справе вывазкі будаўнічых матар'ялаў, шырока разгарнуць грамадзкае харчаваньне для будаўнікоў. Усе расьпіловачныя ўстаноўкі перавесьці на бесьперапынку і мінімум 2-зьменную работу.

Будаўніцтва павінна быць разгорнута нават пры мінімальнай забясьпечнасьці будаўнічымі матар'яламі. Дзеля хутчэйшага палепшаньня ўмоў утрыманьня сьвінаматак трэба максымальна хутка пераабсталяваць маючыяся будынкі,—ліквідаваць такое шкодніцкае становішча, пры якім трэба амаль на лодцы пад'яжджаць у сьвінарнік. Павінны быць безадкладна гатовы будынкі для прыёму сьвінаматак з карантынаў. Сіласнае будаўніцтва павінна быць праведзена ўне ўсякай чаргі поўнасьцю і ў тэрмін. Трэба дабіцца сапраўднай адказнасьці дырэктараў за будаўніцтва, за якасныя паказчыкі яго, асабліва за рашучае патаненьне. Вакол гэтай задачы да сёньняшняга дню праца не разгорнута. Наадварот, ёсьць недапушчальны падыход нібы-то ў „Сьвінавода" нейкая тоўстая кішэня і „грошы куры ня клююць". Толькі-ж гэтым мажліва тлумачыць невыкарыстаньне мясцовых будаўнічых матар'ялаў (старых кулацкіх будынкаў, саломы і інш.), не эканомнае выдаткаваньне дэфіцытных будаўнічых матар'ялаў і поўнае адсутнічаньне ўвагі грамадзкасьці гэтай аднэй з самых цэнтральных задач. Усё будаўніцтва павінна быць сапраўды пераведзена на рэйкі сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Ацэнку дырэктараў, рабочых камітэтаў, партыйных ячэек трэба рабіць на падставе вынікаў выкананьня будаўнічай праграмы. Усе матар'ялы, якімі распалагае „Сьвінавод", гавораць за тое, што работа гэтых арганізацый у саўгасах зараз не адпавядае тым гістарычным задачам, якія пастаўлены партыяй і урадам перад саўгасамі „Сьвінавода", як мяснымі дзяржаўнымі фабрыкамі. Яшчэ няма сапраўды самаахвярнай барацьбы мас за іх выкананьне на справе. У кожным саўгасе для сыстэматычнага кантролю на ўвесь час будаўніцтва трэба арганізаваць часовыя кантрольныя камісіі, ужыць новыя формы соцыялістычнага спаборніцтва—грамадзкі буксір да адстаючых, скразныя ўдарныя брыгады і інш. Вытворчыя нарады павінны стаць на чале мас, сыстэматычна прапрацоўваючы ход будаўніцтва, сыгналізуючы аб малейшай небясьпецы зрыву.

Уся арганізацыя працы на будаўніцтве павінна быць пабудавана, выходзячы з неабходнасьці дабіцца максымальна высокай вытворчасьці і якасьці працы, максымальна танных пабудоў. Належнае кіраваньне будаўніцтвам патрабуе суровай плянавасьці і справаздачнасьці аб ходзе работы. Будаўніцтва ў сьвінпрамгасах, як падстава посьпехаў арганізацыі сьвінпрамгасаў і выкананьня задач, пастаўленых партыяй і ўрадам перад саўгасамі „Сьвінавода", павінна быць поўнасьцю ў тэрмін і з належнай якасьцю выканана.

**Т. Аўчыньнікаў.**

# ПРАВІЛЬНА АРГАНІЗАВАЦЬ ПРАЦУ Ў КАЛГАСАХ

## Як скарыстаць працу падлеткаў

„Трэба дамагацца, каб кожны дзень, у кожнай вёсцы, у кожным горадзе моладзь практычна вырашала тую ці іншую задачу агульнай працы, няхай самую маленькую, няхай самую простую“.

ЛЕНІН.

Вялізарны рост калектывізацыі вёскі нясе за сабой карэнную ломку сацыяльна-эканамічнага быту ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства і ліквідацыю дапатопных адносін да працы.

Калі аграмаджаньне працы ламае дробныя капіталістычныя адзінкі вытворчасьці—індывідуальніцтва, дык той-жа працэс нямінуча цягне за сабою сямейна-бытавыя зьмены, аб гэтым нам сьведчыць практыка старых калгасаў-камун.

Вось прыклад: камуна імя т. Сталіна (Полацкая акруга), будуе для камунараў 20-кватэрныя дамы і больш, дзе ёсьць агульныя сталовыя і лазьні. Мы такіх камун па СССР маем не малую колькасьць.

У чым заключаюцца зьмены ў сям‘е, у сямейна-бытавых умовах пры аграмаджаньні працы?

Зьмены вялізарныя; іх адразу адчуваюць калгасьнікі, як толькі крыху папрацуюць у калгасе і асабліва гэта адчуваецца там, дзе ёсьць грамадзкія сталоўкі, лазьні, клюбы, ясьлі, дзіцячыя пляцоўкі і г. д.

Жанчына ўвесь свой вольны час аддавала кухні, дзецям і хаце, працуючы ў сваёй малюсенькай гаспадарцы, а таму яна, далей сваёй гаспадаркі і клопат аб ёй, нічога ня ведала і ня бачыла. Калектыўная праца ня толькі дае палёгку ў працы, але і распрыгоньвае калгасьніка, асабліва жанчыну, ад усіх пут, якія яе трымалі, да гэтага часу, у цямноце і невуцтве.

Ясьлі, аграмаджаная сталоўка—лепшыя спадарожнікі жанчыны ў яе культурным росьце. Навука адчыняе ёй вочы, навука, якой раней сялянка ня ведала і якой яна, пры старой арганізацыі працы, не магла займацца.

### Правільна арганізаваць працу падлеткаў

Усе ўмовы, якія стварыліся на вёсцы, выклікаюць новую пастаноўку працы моладзі і гэтыя абставіны поўнасьцю выцякаюць з таго вялізарнага працэсу сацыяльнай пераробкі і індустрыялізацыі вёскі, якая ў сучасны момант адбываецца.

У посьпехах калгаснага будаўніцтва вялізарную ролю адыгрывае правільная арганізацыя працы ў калгасах, без якой немагчымы згуртаваны, дружны, працаздольны калектыў.

Праца моладзі зьяўляецца часткаю аграмаджанай працы, цесна сплятаецца з ёю, праца моладзі ні ў якім выпадку не павінна разглядацца, як паасобная самастойная адзінка. Адсюль вывад, што важнасьць правільнай пастаноўкі працы моладзі павінна быць ня меншай, чымся арганізацыя працы наогул.

Пытаньні арганізацыі працы падлеткаў у калгасах зьяўляюцца новымі і ня вывучанымі. Матар'ялы, якія паступаюць са ўсіх канцоў БССР, сьведчаць аб тым, што гэта пытаньне яшчэ не разьвязана, а калі і разьвязвалася, дык вельмі нездавальняюча.

Ёсьць факты, што выкарыстаньне працы моладзі ў калгасах ідзе ў разрэз з палітыкай партыі і савецкай улады: дапушчаюцца перакручваньні ў адносінах аховы працы падлеткаў—ёсьць факты, нават масавыя зьявы ўжываньня дзіцячай працы з 10-гадовага ўзросту і маладзей, з рабочым днём, роўным рабочаму дню дарослых рабочых, з нероўнамернай аплатай працы; гэта спараджае хваравітыя зьявы: 1) адрыў дзяцей ад вучобы, 2) надарваны ў дзіцячым узросьце арганізм робіць у далейшым чалавека непрацаздольным—хворым, а нам для будаўніцтва новага здаровага жыцьця патрэбны моцныя людзі, якія-б адпавядалі-б усім запатрабаваньням сацыялістычнага ладу.

Другі, супроцьлеглы гэтаму факт (хоць ён сустракаецца куды радзей, чымся першы, гэта другая крайнасьць): некаторыя кіраўнікі калгасаў не дапушчаюць дзіцячай працы да 16-годняга ўзросту. Такія зьявы не павінны мець месца ў калгасах, асабліва ў сучасны момант, калі матар'яльна калгасы яшчэ не замацаваліся.

Такая ўстаноўка зьяўляецца шкоднай, цяжкай ня толькі для калгасаў, але гэта кепска адаб'ецца і на выхаваньні моладзі.

Асноўнай задачай арганізацыі дзіцячай працы ў колгасах зьяўляецца стварэньне кваліфікаванай, палітычна сьвядомай зьмены, якая павінна будзе даць новыя кадры для далейшага разьвіцьця і замацаваньня калгаснага будаўніцтва.

Толькі такім чынам і ў суадпаведнасьці з пастановай лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) можа і павінна ставіцца пытаньне.

Пасьпяховае разьвіцьцё калгаснага руху стыкаецца з недахопам кваліфікаванай рабочай сілы. Усё гэта прымушае кожнага партыйца і камсамольца, кожнага сьвядомага працаўніка прымаць меры да стварэньня кваліфікаванай рабочай сілы ў сельскай гаспадарцы.

Бязумоўна, арганізацыя працы моладзі ў калгасах забясьпечыць сельскую гаспадарку неабходнымі кадрамі. „Таму асноўная ўстаноўка, на *шчыльную сувязь* організацыі працы моладзі ў колгасах з задачамі вучобы і падрыхтоўкі кадраў зьяўляецца неабходным фундамантам для правільнай пастаноўкі і разьвязаньня гэтага пытаньня“.

### Як павінна быць скарыстана праца моладзі і рабочы дзень падлетка

Дзеці павінны жыць і рыхтавацца да працы ў нармальных умовах, каб у маладым арганізьме была закладзена для будучай работы дастатковая колькасьць сіл і энэргіі.

Часамі прыходзіцца сустракацца з дарослым мужчынам каля 40—45 гадоў, які выглядае старым, хутка зморваецца і ўвесь час скардзіцца на свой хворы арганізм. Гэта тлумачыцца нічым іншым, якператамленьнем яго арганізма ў дзяцінстве.

Усялякая праца, якая-б яна ні была, шкодна для падлеткаў, калі яна празьмерна працягла і ўтомна; сіла арганізма дзяцей, да вызна-

чанага ўзросту, павінна ісьці ня толькі на працу, але і для назапашваньня сіл і разьвіцьця самага арганізма.

Таму абмежаваньне рабочага для моладзі ў калгасах зьяўляецца строга абавязковым.

### Школа і праца ў сельскай гаспадарцы

Праца дзяцей да 12-гадовага ўзросту павінна быць забаронена, апрача школьных вытворчых плянаў.

Паколькі праца дзяцей дапушчаецца школьным вытворчым плянам, дык гэта праца павінна быць строга ўвязана з вучобай ў школе. Праца і вучоба павінны быць пастаўлены так, каб зімою пераважала вучоба, а летам практыка—праца. „Гэта датычыцца дзяцей, якія атрымліваюць агульную адукацыю ў школе да 12-гадовага ўзросту“.

Працоўны час дзяцей, абхопленых школьна-вытворчым плянам, не павінен перавышаць 4-х гадзін у суткі, а па меркаваньню дактароў для слабых дзяцей да 12-гадовага ўзросту праца можа зусім ня ўжывацца.

Праца для дзяцей да 12-гадовага ўзросту зьяўляецца невялікай звычкай да працы ў групе падлеткаў.

### Група падлеткаў

У групу падлеткаў уваходзіць уся моладзь ад 12 да 16-гадовага ўзросту, незалежна ад полу. Для падлеткаў, якія вучацца ў школе сялянскай калгаснай моладзі, і наогул для ўсяго вучнёўства ў сельскагаспадарчай сыстэме, ня трэба назначаць пэўны лік працоўных гадзін у суткі. Мэтазгодна зрабіць так, каб зімою пераважала вучоба, а летам практыка, г. зн. у залежнасьці ад часу году і патрэбы данага сэзону ў рабоце калгасу, але з такім разьлікам, каб агульная сума вучэбных і працоўных гадзін падлеткаў, разам узятая, не перавышала колькасьці нармальнага працоўнага дня рабочага. Калі працоўны дзень устаноўлены ў восем гадзін, дык гэтыя восем гадзін павінны быць разьмеркаваны ў падлеткаў і наогул моладзі на дзьве часткі, вучобу і працу, падзяліўшы іх на роўныя часткі, і як было сказана вышэй, у залежнасьці ад часу году.

Праца для групы падлеткаў ад 12 да 16-гадовага ўзросту зьяўляецца генэральнай падрыхтоўкай да выхаду на сталую працу.

### Як арганізаваць у калгасе брыгаднае вучнёўства

Брыгадным вучнем у калектыўных гаспадарках можа быць моладзь ад 12-ці да 16-гадовага ўзросту.

Брыгада вучняў можа мець у сваім складзе ад 10 да 30 чалавек.

Калгас для брыгады вылучае кіраўніка-практыка. У брыгадзе, дзе вучняў набіраецца больш 30 чалавек, кіраўніку брыгады даецца памоцнік. Для брыгады неабходна выпрацаваць вытворчы плян тэрмінам на адзін год.

Працоўны дзень для вучняў брыгады, у сэзоне, не павінен перавышаць 8 гадзін. Калі ў калгасе адбываецца тэрміновая работа, што бывае вясной і восеньню, дык вучні брыгады могуць быць выкарыстаны на аднэй рабоце, не перавышаючы нормы рабочых часоў і ня больш, чым два тыдні.

Работа брыгаднага вучнёўства павінна абхопліваць усе галіны сельскай гаспадаркі. У дапамогу інструктару брыгады ствараецца брыгкамітэт з вучняў брыгады. Брыгкамітэт сочыць за дысцыплінай і разьвязвае ўсе арганізацыйныя пытаньні сярод вучняў брыгады, і ні ў якім выпадку не павінен камандаваць і разьмяркоўваць работу—гэта справа інструктара.

Ініцыятыва па стварэньню брыгад павінна выходзіць ад камсамолу, моладзі і кіраўніцтва калгасу.

Для атрыманьня тэорэтычных ведаў вучнёўства брыгады карыстаюцца падручнікамі Ш. С. М. Тэрмін навучаньня ў брыгадах устанаўляецца ад $1^1/_2$ да 3 год, у залежнасьці ад здольнасьцяй вучняў.

### Індывідуальнае вучнёўства

У некаторых калгасах моладзь, па розным прычынам, ня будзе абхоплена ні Ш. С. М., ні брыгадным вучнёўствам. Там неабходна арганізаваць індывідуальнае вучнёўства.

Сутнасьць індывідуальнага вучнёўства заключаецца ў наступным:

1) Індывідуальным навучаньнем абхопліваецца моладзь ва ўзросьце ад 12 да 16 год.

2) Спэцыялісты-практык бярэ пад свае кіраўніцтва аднаго або двух чалавек моладзі і з імі выконвае даручаную яму працу. Пры сумеснай працы вучняў практыкам-калгасьнікам апошні абавязаны азнаёміць іх з работай так, каб з цягам часу яны змаглі выконваць яе самастойна.

3) Вучням-індывідуалістым выпісваюцца падручнікі Ш. С. М. за кошт культфонду калгаса. Па заканчэньні вучнёўства падручнікі здаюцца ў бібліотэку калгаса.

4) Тэрмін індывідуальнага навучаньня раўняецца тэрміну брыгаднага, і таксама з улікам здольнасьцяй вучня.

5) Вучнёўствам кіруе і за яго адказвае кіраўніцтва калгасу.

### Аплата працы

У старых і новых калгасах яшчэ і да гэтых часоў вядзецца аплата працы па ўзросту і полу. Дарослы мужчына атрымлівае вышэйшую стаўку, дарослая жанчына атрымлівае меншую, а падлетак яшчэ меншую—нізкую стаўку, пры роўнасьці катэгорый, колькасьці і якасьці вытваранай прадукцыі. У апошні момант нераўнамерная аплата працы павінна быць зжыта.

Прынцып роўнай аплаты працы павінен быць цьвёрда ўстаноўлены, зразумела, у тых выпадках, калі падлетак не ахоплены ніякай вучобай і выконвае тую-ж і ў той-жа колькасьці працу, як і дарослы.

Каб правільна аплачвалася праца дзяцей і падлеткаў—трэба па прыкладу прамысловых і саўгасных вучнёўскіх сетак стварыць для калгаснай моладзі вучнёўскую сетку, якая павінна быць пабудавана так, каб адпавядала тэрмінам вучнёўства і нармальнай калгаснай рабочай сетцы.

Здавалася, што стварэньне вучнёўскай сеткі супярэчыць прынцыпу роўнай аплаты працы, але гэта зусім ня так, і вось чаму:

1) Як правіла, вучнёўская сетка павінна існаваць там, дзе тэрмін навучаньня займае большы пэрыяд часу, каб прышчапіць падлеткам дастатковыя звычкі на данай працы. Выходзячы з гэтага, у першы

час працы вучня вытворчасьць і якасьць яго работы будуць нізкія, таму, калі вытвараць роўную аплату за адну і тую працу, дык вучань можа апынуцца ў вельмі кепскім матар'яльным становішчы.

2) Устанаўленьне аплаты вучням за працу адпаведна колькасьці і якасьці вытваранага ім прадукту заахвоціць вучня да павялічэньня прадукцыі.

3) *Вучнёўская сетка служыць роўнавагай у замацаваньні ведаў вучня і зьяўляецца неабходнай у калгаснай гаспадарцы.*

Выходзячы з разьлікаў і меркаваньняў, мы прапануем вучнёўскую сетку, у адпаведнасьці з нармальнай рабочай сеткай, у такім парадку, г. зн. у стасунку 0,6 : 1.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вучнёўская | 1 разрад | 2 разрад | 3 разрад | 4 разрад | 5 разрад | 6 разрад | 7 разрад |
| | 60 кап. | 90 кап. | 1 р. 20 к. | 1 р. 50 к. | 1 р. 80 к. | 2 р. 10 к. | 2 р. 40 к. |
| Рабочая | 1 разрад | 2 разрад | 3 разрад | 4 разрад | 5 разрад | 6 разрад | 7 разрад |
| | 1 руб. | 1 р. 50 к. | 2 руб. | 2 р. 50 к. | 3 руб. | 3 р. 50 к. | 4 руб. |

Пры складаньні вучнёўскай сеткі калгасныя работнікі—кіраўніцтва—не павінны зварачаць увагі на стаўку ў рублёх у нармальнай рабочай сетцы. Стаўкі могуць быць у розных калгасах розныя, але стасункі абедзьвюх як вучнёўскай, так і рабочай павінны быць такімі, як тут паказана.

Прыведзеныя вышэй словы кажуць, што аплата падлеткам, у пачатку іх працы і вучобы як у Ш. С. М., так і ў другіх сыстэмах сельскагаспадарчага вучнёўства, павінна вытварацца па вучнёўскай сетцы, але не як роўная аплата за роўную працу. Могуць супярэчыць супроць зьдзельнай аплаты працы дзяцей і падлеткаў. Гэта зразумела. Але паколькі зьдзельная аплата працы ў сучасны момант зьяўляецца асноўнай аплатай, якая дапамагае падняць інтэнсыўнасьць працы, дык зьдзельная аплата павінна быць уведзена ва ўсіх відах сельскагаспадарчага вучнёўства. Зьдзельную аплату трэба ўводзіць ня з першых тыдняў заняткаў, а калі вучні папрацуюць ня менш году.

Пры гэтым неабходна падкрэсьліць, што зьдзельная аплата працы падлеткаў ні якім чынам не павінна ісьці побач з нармаваньнем выпрацоўкі.

За гэту новую справу ў калгасах павінны ўзяцца ў першую чаргу ячэйкі КП(б)Б, КСМ, піянэры, актывістыя-калгасьнікі і настаўнікі школ.

Роля кожнай з памянёных арганізацый павінна быць у данай справе яснай для яго: партыец павінен кіраваць, арганізоўваць, даваць натхненьне, выяўляючы на кожным кроку малавераў і шкоднікаў, якія ідуць супроць пабудовы новага жыцьця. Камсамол павінен першы ўваходзіць у брыгаду, рыхтаваць для гэтага моладзь, даводзіць мэтазгоднасьць стварэньня брыгад.

Піянэры працуюць у школе над школьна-вытворчым плянам сумесна з настаўніцтвам, паляпшаючы матар'яльнае становішча школы.

**Кісялёў.**

# Арганізацыя працы ў калгасе „Труд“

(*Полаччына*)

Практыка арганізацыі і аплаты працы ў калгасах высоўвае шэраг новых пытаньняў, якія кожны калгас разьвязвае па свайму. У гэтым артыкулу будзе разгледжана арганізацыя працы на практыцы ў калгасе „Труд“, прычым заўважым самыя галоўныя з гэтых пытаньняў.

С.-г. арцель „Труд“ (быўш. маёнтак Хоцевічы, Ветрынск. р.) існуе з 1928 г. У мінулым арцель зьяўлялася самым буйным калгасам у раёне, як па плошчы (у 1928 г. мела 270 *га*, у 1929 г. узбуйнілася да 500 *га*), так і па насельніцтву—171 асоба ў 1929 г.



Выхад у поле.

У час „галавакружэньня“ арцель перажыла ўсе няўзгоды перагібаў у калектывізацыі: прылівы і адлівы, абагуленьне і разабагуленьне і ў выніку арцель вышла ўсё-ж такі ўзбуйненай да 914 *га* з насельніцтвам у 70 сямей. Маючы вялікую зямельную нагрузку для аднаго працаздольнага сябра (8 *га* пахаці) калгас, „Труд“ з посьпехам скончыў сяўбу да 1 чэрвеня, што тлумачыцца становучымі бакамі арганізацыі працы ў калгасе (брыгадная сыстэма, зьдзельшчына, прэміраваньне і інш.).

У адносінах разьбіўкі рабочай сілы на брыгады трэба адзначыць наступнае. Звычайна ў калгасах разумеюць „брыгаду“—як групу людзей, якія выконваюць стала, альбо працяглы тэрмін адну і тую-ж працу ўнутры галіны — заменьваецца разуменьнем аб усім калектыве людзей, выконваючых розную, у адзін і той-жа час працу, але працуючых у адной галіне. Так, у нас замест асобных брыгад даярак, кармешчыкаў, пастухоў—існуе агульная брыгада па жывёлаводзтву; замест брыгад аратых, баранавалокіх і г. д.—існуе агульная брыгада палявых рабочых. Арцель-жа „Труд“ пачала арганізоўваць брыгады *ўнутрыгалінныя*, напрыклад: арганізавана брыгада „сяўцоў“, якая ўжо ў гэтай працы другімі не заменьвалася. Наступным становучым зьявішчам пры гэтым зьяўляецца тое, што ў калгасе „Труд“ на ўвесь час вясеньняй пасеўнай кампаніі коні, збруя і інвэнтар былі строга замацаваны за адпаведнымі працаўнікамі і ня перахадзілі з рук у рукі, як гэта наглядаецца ў іншых калгасах, у выніку чаго гаспадарка вышла з сяўбы з найменшай амартызацыяй цягавай сілы і інвэнтару.

З 1-га мая арцель „Труд“ перайшла на тарыфна-зьдзельную аплату працы. Самастойна, бяз ніякай жывой інструкцыйнай дапамогі, прарабіўшы папярэдня працу па праверцы на практыцы норм, якія раіць Райкалгассаюз і ўнёсшы зьмены ў тарыфна-разрадную сетку (рэкамэндуемую Райкалгассаюзам) адпаведна ўмовам калгасу. Цікава будзе некалькі падрабязьней застанавіцца на гэтым, можна сказаць „першым блінцы“ зьдзельшчыны ў Ветрынскім раёне. Калгас прыняў 5 разрадную сетку з наступнай аплатай разрадаў: I—60 к., II—78 к., III—96 к., IV—1 р. 14 к., V—1 р. 32 к.

Што датычыцца да аднясеньня работ да разрадаў, дык трэба адзначыць наступнае:

1) Што арцель амаль усе працы гэтай важнай галіны, як жывёлаводзтва (догляд, кармленьне, даеньне і інш.) паставіла ў больш нізкія ўмовы аплаты (III разрад), чым асноўныя палявыя працы (ворыва, баранаваньне і інш.), якія пастаўлены ў IV разрад. Хто-ж тады з членаў калгасу згодзіцца стала працаваць у „танным“ жывёлаводзтве?

2) Арцель наогул „перабаршчыла“ аднясеньнем названых прац да III і IV разраду ў той час, як па сетцы, што раіць Акркалгассаюз яны ўсе аднесены да 2 разраду.

3) Арцель „Труд“ няправільна аднесла ворыва, акучваньне, баранаваньне да больш цяжкіх прац, як касьба, пасеў, г. зн. у адзін—IV разрад. Праўда, праўленьне арцелі матывуе, гэта няправільнае ўраўненьне цяжкасьцю глебы (гліна), але на гэта ёсьць нормы і ў даным выпадку трэба было ісьці па шляху памяншэньня норм для прац па апрацоўцы глебы, а не па шляху павялічэньня разрадаў.

Вучот працы быў арганізаваны ў арцелі па „табелях-нарадах“, зьвесткі давалі брыгадзіры і паляводы. Недахопам вучоту зьяўлялася тое, што „табель-нарад“ запаўняўся ня поўнасьцю, як гэта належыць па інструкцыі. Так, у табелях-нарадах ня ўказваецца зараней заданьня і ацэнка яго згодна нормы і разраду, а вучот утвараецца такім шляхам. Правяраецца штодзенна лік працы, утваранай кожным працаўнікам за дзень (10 гадз.) і калі норма перавыканана, запісваецца ў табель ня 10, а больш гадзін, а калі недавыканана,—дык менш. Напрыклад: Сяргееў узараў паконным аднасашніковым плугам за 10 гадзін—0,9 *га*, што ў паўтары разы перавышае норму 0,6 *га*, тады яму і запісваецца ў паўтары разы больш гадзіны—15 гадзін, хоць ён фактычна працаваў 10 гадзін. Таксама і разьлік утвараецца за паўтара дня—згодна разраду. Такая сыстэма арганізацыі зьдзельшчыны і вучоту мае наступныя адмоўныя бакі:

1) Табель-нарад фактычна не адпавядаў сваёй назьве, таму што ў ім не запісваўся сапраўдны лік прапрацованых гадзін.

2) Ня прытрымліваючыся інструкцый да табель-нарада, нельга наладзіць правільны кантроль вучоту.

3) Гэткая сыстэма зьдзельшчыны і вучоту патрабуе штодзеннага абмеру і прыёмкі працы ў кожнага працаўніка, што зьяўляецца амаль што немагчымым ва ўмовах раскіданасьці калгаснай тэрыторыі і адсутнічаньня падрыхтаваных вучотчыкаў.

Па гэтай прычыне і сарвалася нядаўна на некаторы час зьдзельшчына ў арцелі „Труд“. Для наладжваньня яе зноў прышлося браць спэцыяльнага вучотчыка і зьмяніць сыстэму вучоту, здачы і прыёмкі работ, згодна інструкцый, асноўны сэнс якой зьяўляецца ў тым, што зьмераная і ацэненая зараней праца здаецца вызначанай групе (група-

вая зьдзельшчына), альбо аднаму працаўніку (індывідуальная зьдзельшчына), а потым, па праверцы працы, разьлік з кожным удзельнікам групы альбо брыгады ўтвараецца прапарцыянальна — фактычна прапрацаваных гадзін, а пры індывідуальнай зьдзельшчыне—па ўтворанай зьдзельнай ацэнцы.

Галоўнымі перашкодамі тут зьяўляюцца цяжкасьці захаваньня цэльнасьці групы на ўвесь час выкананьня заданьняў, г. з., каб адны і тыя-ж людзі з пачатку і да канца выконвалі заданую працу (гэта-ж вышэй памянутае пытаньне аб брыгадах). Але гэтую цяжкасьць можна ўсё-ж такі перамагчы пры ўмелай арганізацыі працы. У крайніх



Жняяркі за працай.

выпадках, дзе немагчыма арганізаваць групавую ці індывідуальную зьдзельшчыну, можна дапусьціць ня зьдзельную, а тарыфна-падзённую аплату.

Больш бяды ў тым, як лічаць шмат якія калгасы, што нават на працягу аднаго дню нельга зрабіць так, каб людзі ў гаспадарцы не перакідваліся з аднэй працы на іншую. Бязумоўна, на сёнешні дзень людзі зьяўляюцца самым „вузкім месцам“ у гаспадарчым жыцьці калгасу, а гэта паказвае, што тут патрэбна ўменьне правільна і рацыянальна скарыстоўваць працоўную сілу. Шмат калгасьнікаў не ўяўляюць сабе гаспадаркі, дзе на працягу дню працаўнік выконвае адну працу. Гэты погляд—спадчына былага дробна-гаспадарчага ўкладу сялянскага жыцьця, дзе ў сваёй невялічкай гаспадарцы, гаспадар выконвае шмат розных прац на працягу дню. Зусім інакш справа павінна быць пастаўлена ў буйнай гаспадарцы, дзе перакідваньне людзей на працягу дню пры раскіданасьці тэрыторыі, часам на значнай адлегласьці, зьвязана з калёсальнымі тратамі працоўнай сілы.

Штодзеннае плянаваньне працы павінна ўтварацца напярэдадні кожнага дню складаньнем „нарадаў“ на працу. Плян павінен быць давелзены да кожнага сябра. Нажаль, у арцелі „Труд“, як і ў большасьці калгасаў „нарадаў не складаецца, таму і арцель мае штодзенна „прарывы“ на трудавым фронце.

Далейшым недахопам арцелі „Труд“ зьяўляецца парадак авансавых выдач прадуктамі і грашыма ў рахунак зарплаты, які ўтвараецца бяз вучоту заробку, дзякуючы чаму адны сябры калгасу знаходзяцца ў

пераборы, а другія ў недаборы. Асабліва выдаюцца бяссыстэмна грашовыя авансы. На глебе такога парадку выклікаюцца нездавальненьні і падае зацікаўленасьць да працы, а між тым арцель пры наліччы ў яе адносна вялікіх бягучых прыбыткаў (ад рыбы і малочнай гаспадаркі) магла-б арганізаваць строга памесячную выплату ў разьмеры 50—75 проц. заробку, уключаючы туды, зразумела, і харчовыя наборы, утвораныя на працягу ўсяго месяцу.

Трэба вітаць практыкаваньне ў калгасе сыстэмы *прэміраваньня* лепшых працаўнікоў. З студзеня месяца раздадзена прэмій больш 300 руб. Арцель заахвочвае прэміямі ня толькі за працу і дысцыпліну, але і за добрыя гаспадарчыя прапановы. Напрыклад: адзін сябра быў на экскурсіі ў калгасах Ц. Ч. О., дзе бачыў асобнай канструкцыі конную шчэпарэзку. Зьвярнуўшыся з экскурсіі, ён прапанаваў праўленьню зрабіць гэткую шчэпарэзку ў арцелі. Некалькі дзён стальмахі працавалі пад яго кіраўніцтвам і шчэпарэзка была гатова. Зараз яна прыносіць гаспадарцы вялізарную карысьць. За гэтае новае ўвядзеньне ён звыш працы быў узнагароджан прэміяй.

І нарэшце некалькі слоў аб сацыялістычным спаборніцтве. У арцелі досыць разьвіта ўдарніцтва, спаборнічаюць паміж сабой галіны гаспадаркі. Акрамя таго, арцель знаходзіцца ў спаборніцтве з сваім суседам, саўгасам „Варонічы“; выкананьне сацспаборніцтва часта правяраецца.

**С. Б. Налібоцкі.**



У сяўбу атрыманы 11 трактар у саўгасе „Таманский“ на Кубані.

„Праводзячы ва ўсёй сваёй практычнай працы ў вёсцы лёзунг **АПОРЫ НА КАЛГАСЬНІКА**, партыя павінна рашуча змагацца са ўсякімі тэндэнцыямі ігнараваньня, ці недаацэнкі аднаасабовай бядняцка-серадняцкай гаспадаркі, аказваючы дапамогу гэтай гаспадарцы, умацоўваючы самастойную арганізацыю беднаты ў саветах, кааперацыі і нізшых зьвеньнях калгаснага руху, вядучы шырокую работу сярод аднаасобнікаў, уцягваючы іх у калгасы“.

(З рэзалюцыі XVI зьезду ЎсеКП(б).

# Школа павінна прыняць актыўны ўдзел у калгасным будаўніцтве

Сучасны рэканструкцыйны пэрыяд народнай гаспадаркі вымагае вытворчай сувязі нашых навучальных устаноў з прамысловымі і буйнымі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі (саўгасамі, калгасамі, машына-трактарнымі станцыямі) у мэтах набыцьця вучнямі неабходных тэорытычных і практычных ведаў, падрыхтоўкі да штогодняга ўдзелу ў вытворчасьці. Задача політэхнізацыі масавай вясковай школы патрабуе неадкладнай і шчыльнай сувязі школьнага калектыву з саўгасамі і калгасамі для належнай арганізацыі пэдагогічнага процэсу. Такое запатрабаваньне ставіцца ня толькі да тых школ, якія існуюць у вёсках, дзе ўжо арганізаваліся калгасы, але і да школ, у раёне, у якіх ёсьць калгасы ці саўгасы.

Пры сучасным недахопе кваліфікаваных калгасных кадраў, пры недастатковай яшчэ папулярызацыі практычнага калгаснага будаўніцтва сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, школы могуць і павінны адыграць вялікую ролю ў справе дапамогі калгаснаму будаўніцтву.

Перш за ўсё, школы павінны грунтоўна і дасканала распрацаваць і пазнаёміць вучняў і ўсіх калгасьнікаў з задачамі і дасягненьнямі калгаснага будаўніцтва ў разрэзе пяцігадовага пляну, з пастановамі (пасеўных пытаньнях) партыйных і савецкіх органаў. Між тым да гэтага часу шмат якія школы стаялі ў баку ад калгаснага будаўніцтва і ў школьнай працы калгаснаму будаўніцтву не ўдзялялася належнай увагі.

У справе папулярызацыі і практычнага азнаямленьня з дасягненьнямі і перавагай буйнае гаспадаркі (калектыўнае ці савецкае гаспадаркі) школы павінны наладзіць арганізаваныя экскурсіі вучняў і іх бацькоў у лепшыя саўгасы і калгасы. Паказаць дасягненьні гэтых гаспадарак у розных галінах гаспадарчага і культурнага жыцьця, арганізацыі працы і інш.

Ёсьць яшчэ слабыя калгасы, дзе няма належнае арганізаванае працы, няма належных вытворчых плянаў, дзе, з прычыны адсутнасьці працаўнікоў, амаль не вядзецца ніякай палітычна-выхаваўчай і культурна-асьветнай працы. У такіх калгасах школы павінны максымальна разгарнуць палітычную і культурна-асьветную працу пад непасрэдным кіраўніцтвам мясцовай партарганізацыі.

Вялікае значэньне ў даны момант мае сьвінагадоўля і правільная арганізацыя гэтае справы. Між тым, у вёсках і большасьці маладых калгасаў мы сустракаем поўную непадрыхтаванасьць да палепшаньня сьвінагадоўлі. Школы павінны заняцца гэтаю справай: папулярызаваць значэньне сьвінагадоўлі, пазнаёміць з элемэнтарнымі запатрабаваньнямі да належнае пастаноўкі сьвінагадоўлі, наладзіць прыкладнае кармленьне і догляд за сьвіньнямі і г. д.

Такія галіны гаспадаркі, як садоўніцтва, гародніцтва, птушніцтва, пчалярства—могуць быць арганізаваны і пастаўлены на належны шлях у значнай меры пры актыўным і непасрэдным удзеле ў гэтай справе ўсяго школьнага калектыву.

Вялікі ўдзел школы могуць прыняць у выпрабаваньні і пашырэньні найлепшых гатункаў садовых дрэў, гародных культур і інш. Некаторыя школы ў гэтым кірунку распачынаюць ужо працу і вядуць, але, бязумоўна, гэтага мала. Кожная школа ў калгасе павінна стаць і ўключыцца ў сетку дасьледчых ячэек, якія вядуць масавую дасьледчую працу ў пэўных галінах сельскае гаспадаркі.

Пэўную ролю і значэньне могуць адыграць школы ў правядзеньні розных кампаній: пасяўной, арганізацыі падпіскі на пазыку „пяцігодка ў чатыры гады“, кантрактацыі і інш. Мы маем цэлы шэраг выпадкаў, калі тыя ці іншыя мерапрыемствы партыі і савецкай улады амаль зусім застаюцца не ўсьвядомленымі калгаснай масай; паведамленьні робяцца афіцыйна, без належнага тлумачэньня і шырокай папулярызацыі. Такія выпадкі наглядаліся ў часе, напрыклад, правядзеньня вясеньняй пасеўнай кампаніі гэтага году ў Халопеніцкім раёне, тое-ж наглядаецца ў некаторых мясцох і цяпер, калі ўжо павінна быць распачата кампанія па падрыхтоўцы да вясеньняй пасеўнай кампаніі (Крупскі р.). Значная доля віны ў гэтым павінна пайсьці і на школы, якія ня ўлічваюць усёй важнасьці даных кампаній.

Посьпехі калгаснага будаўніцтва залежаць ад пісьменнасьці калгасьнікаў. Між тым у калгасах ёсьць яшчэ шмат няпісьменных, асабліва жанчын, якія павінны адыграць вялікую ролю ў арганізацыі новага быту ў калгасе. Школы павінны паставіць сваёй ударнай задачай поўную ліквідацыю няпісьменнасьці ў калгасе і нават ліквідацыю малапісьменнасьці сярод калгаснага актыву ў першую чаргу. У гэтую працу павінны быць уцягнуты ня толькі настаўнікі, але і вучні старэйшых груп і калгасная моладзь, камсамольцы. Школы павінны ўзяць на сябе ініцыятыву ў справе арганізацыі гурткоў па самаадукацыі і аказаць мэтадычную дапамогу гурткам.

У калгасах застаюцца яшчэ элемэнты старога быту, захоўваюцца рэлігійныя забабоны, якія зьяўляюцца перашкодай будаўніцтва новага жыцьця і быту. Школы павінны разгарнуць сыстэматычную і арганізаваную барацьбу (сумесна з камсамолам, калгасным актывам) з рэлігіяй ва ўсіх яе праявах, карыстаючыся, зразумела, мэтодыкай антырэлігійнага выхаваньня.

Надзвычайна вялікае значэньне ў сучасны момант набывае пытаньне арганізацыі выхаваньня дзяцей дашкольнага ўзросту. Ініцыятыву ў справе арганізацыі дашкольных устаноў (хаця-б на сродкі калгасу) павінна ўзяць на сябе школа, правёўшы ўсю падрыхтоўчую працу.

Вось некаторыя пытаньні, якія маюць актуальнае значэньне ў калгасным будаўніцтве, у вырашэньні якіх нашы школы павінны прыняць належны ўдзел у сваёй штодзеннай працы.

В. С.

**„Усе гавораць пра ліквідацыю няпісьменнасьці. Вы ведаеце, што ў краіне няпісьменнай пабудаваць камуністычнае грамадзтва нельга. Недастаткова таго, каб савецкая ўлада загадала, або каб партыя дала пэўны лёзунг, або каб кінула вядомую частку лепшых работнікаў на гэтую справу. Для гэтага трэба, каб само маладое пакаленьне ўзялося за гэтую справу“. (ЛЕНІН).**

# Краязнаўства — на службу сацыялістычнага будаўніцтва

Зараз адбываецца працэс перабудовы ўсяе нашае народнай гаспадаркі на новы сацыялістычны лад. У сувязі з гэтым адбываюцца і вельмі глыбокія зьмены ў сацыяльна-эканамічным жыцьці: утвараюцца новыя формы вытворчых узаемаадносін, новыя мэтады працы (сацспаборніцтва, ударніцтва, пераход на бесьперапынны тыдзень), зьмяняюцца бытавыя ўмовы, адбіваюцца самыя глыбокія зрухі ў перабудове ўсяго грамадзкага ладу, выпрацоўваецца новая калектыўная псыхалёгія і пралетарская ідэолёгія мас. Руйнуецца старое і будуецца новае жыцьцё.

Каб ня было памылак у гэтым будаўніцтве, патрэбна навукова-дасьледчая праца ва ўсіх галінах прыроды, гаспадаркі і культуры, шырокая папулярызацыя вынікаў гэтае дасьледчае працы сярод самых шырокіх працоўных мас. Перад краязнаўчымі арганізацыямі і ўсімі краязнаўцамі стаіць канкрэтная і вялікая задача—сваёй дасьледчай працай дапамагаць працоўным масам, мясцовым партыйным, савецкім і грамадзкім арганізацыям у выкананьні дырэктыў партыі па будаўніцтву сацыялізму. Гэта першая і асноўная задача, якую мы павінны на сябе ўзяць у галіне краязнаўчай працы, выходзячы з яе важнасьці і перашачарговасьці. Задачы вывучэньня разьвіцьця нашай сацыялістычнай прамысловасьці і калектывізацыі вёскі трэба лічыць задачамі ўдарнымі, неадкладнымі.

Акрамя таго, краязнаўчыя арганізацыі павінны самі прыняць непасрэдны ўдзел у калгасным будаўніцтве шляхам папулярызацыі вынікаў сваіх досьледаў, удзелу ў складаньні арганізацыйных і вытворчых плянаў калгасаў і інш.

Да гэтага часу вывучэньню калгаснага будаўніцтва не ўдзялялі яшчэ належнае ўвагі нашы навукова-дасьледчыя ўстановы і краязнаўчыя арганізацыі. І зусім зразумела, што калгаснае будаўніцтва ідзе ў нас без належнага навуковага абслугоўваньня і дапамогі. Навукова-дасьледчая справа яшчэ не папераджае сваімі парадамі калгаснага будаўніцтва, а ідзе з-заду за ім.

У нас яшчэ ня вывучаны і не распрацаваны пытаньні адносна арганізацыйных плянаў, тыпаў калгасаў, арганізацыі працы і яе аплаты, эфэктыўнасьці капіталаўкладаньня, адносна арганізацыі быту ў калгасах і г. д.; у нас няма яшчэ выдрукаваных матар'ялаў і па апісаньню асобных відаў калгасаў, няма манаграфічных апісаньняў арцеляй, камун. Усё гэта ўскладняе і затрудняе працу практычных, асабліва нізавых працаўнікоў у калгасах. Зразумела, што дасьледчай працы па вывучэньню калгаснага руху трэба надаць шпаркі тэмп, якім ідзе і само калгаснае будаўніцтва.

У якім-жа кірунку павінна вясьціся вывучэньне калгаснага руху ў раёне?

Гэтае вывучэньне павінна ісьці па двух кірунках:

1) па лініі вывучэньня паасобных калгасаў (манаграфічныя апісаньні);

2) па лініі вывучэньня паасобных тэм і праблем калгаснага будаўніцтва, якія маюць найбольш актуальнае значэньне (пытаньне клясавай барацьбы; працэсы абагуленьня сродкаў вытворчасьці; арганізацыя працы; эфэктыўнасьць працы ў калгасах у залежнасьці ад яе аргані-

зацыі і г. д·); сюды ж трэба будзе ўключыць і пытаньні дасьледваньня паасобных відаў калгасаў (камун, с.-г. арцеляй і таварыстваў).

Манографічныя апісаньні калгасаў вельмі цікавы і патрэбны. Грунтоўнае манографічнае апісаньне можа даць нам уяўленьне аб усім працэсе росту калгасаў, раскрыць цікавыя старонкі яго гісторыі, паказаць, як вырастала сацыялістычная гаспадарка ў барацьбе з капіталістычнымі элемэнтамі ў вёсцы. Калі-б мы мелі ўжо некалькі добрых манографій калгасаў, мы-б мелі каштоўны матар'ял і для вывучэньня



Трактар са жнейкай у камуне за працай.

паасобных пытаньняў калгаснага будаўніцтва, для вывучэньня калгаснага руху. Але пакуль мы гэтага маем вельмі мала.

Ці вывучалі мы этапы калгаснага будаўніцтва ў пэўным раёне?

Трэба адказаць, што гэтыя пытаньні вывучаліся вельмі і вельмі мала і недастаткова. Адсюль выцякае неабходнасьць дасьледваньня асноўных фактараў калгаснага будаўніцтва на розных этапах яго разьвіцьця і ў пэўных канкрэтных абставінах.

Калгаснае будаўніцтва, асабліва ў сучасны момант, адбываецца ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы. Кулак добра разумее і непасрэдна ўжо адчувае, што рост буйных калгасаў выбівае ў яго глебу з-пад ног, што калектывізацыя зьнішчае ўсякія магчымасьці эксплёатацыі ім вясковай беднаты, і таму ў прадсьмяротных дрыжыках кулак імкнецца ўсякімі спосабамі перашкодзіць разьвіцьцю калгаснага будаўніцтва.

Аднэй з форм клясавай барацьбы зьяўляецца ўтварэньне кулакамі і заможнікамі ілжэкалгасаў. Ілжэкалгасы—гэта спосаб захаваць пад шыльдай калгасу па сутнасьці кулацкую гаспадарку, гэта спосаб падрыву і шкодніцтва ў калгасным будаўніцтве.

Вывучэньне форм і мэтадаў клясавай барацьбы ў вёсцы пры ўзмоцненым сацыялістычным наступе на капіталістычныя элемэнты вёскі, вывучэньне барацьбы супроць калгасаў—прадстаўляе цікавасьць і мае пэўнае практычнае значэньне для сёнешняга дню. Ведаючы спосабы і мэтады барацьбы кулакоў супроць калгасаў і выходзячы з канкрэтных мясцовых умоў, мы павінны праз калгасы ўзмацніць нашу барацьбу з кулацкімі настроямі.

Неабходным зьяўляецца і вывучэньне працэсу каапэраваньня і калектывізацыі сялянскіх гаспадарак. Важна выявіць, як пад уплывам разьвіцьця нашае індустрыялізацыі, забясьпечаньня сялянскіх гаспадарак складанымі сельска-гаспадарчымі машынамі, пад уплывам сельска-гаспадарчай каапэрацыі (мэліорацыйных, малочных, жывёлагадоўчых, машынных, насенных і інш. таварыстваў), як па гэтаму шляху сялянскія аднаасабовыя гаспадаркі прыходзілі і прыходзяць да абагуленьня сродкаў вытворчасьці, да сацыялістычных форм гаспадаркі.



Частка сьвіного стада саўгасу „Райцы“.

У нас у БССР (як і ва ўсім СССР) ніжэйшыя формы калектыўных гаспадарак перарастаюць у вышэйшыя (таварыствы па сумеснай апрацоўцы зямлі,—у с.-г. арцелі, арцелі ў камуны). І вось у гэтым працэсе перарастаньня адных форм калектыўных гаспадарак (ніжэйшых у вышэйшыя) у другія ёсьць вельмі шмат цікавых момантаў, вывучэньне якіх карысна ў практычных мэтах, а таксама і для вывучэньня гісторыі калгаснага руху.

Памятаючы, што ў калгасным будаўніцтве мы маем працэс аб'яднаньня дробных уласьнікаў з няжкыгай дробнаўласьніцкай псыхолёгіяй, мы вельмі часта можам мець і факты выхаду з калгасаў і разам індывідуалістычныя праяўленьні. Адсюль трэба зрабіць вывад, што мы павінны стымуляваць скарэйшае перарастаньне ніжэйшых відаў калгасаў у вышэйшыя. Удзел у гэтым павінны прыняць і краязнаўцы, на падставе належных матар'ялаў даказаўшы выгаднасьць і неабходнасьць паскарэньня гэтага працэсу і прыняўшы ўдзел у распрацоўцы (пасьля папярэдняга вывучэньня) найлепшых форм арганізацыі вышэйшага тыпу калгасу. Прычым пры вызначэньні тыпу гаспадаркі, трэба мець на ўвазе не ўстаўны яе бок, а ступень калектывізаванасьці

гаспадаркі і яе разьмер, які вызначаецца ўстанаўленьнем кошту асноўных сродкаў вытворчасьці калектыўнае гаспадаркі.

У нашых дасьледваньнях калгаснага руху мы павінны надаць належную ўвагу працэсу ўзбуйненьня існуючых калгасаў, вывучыць шляхі і мэтады гэтага ўзбуйненьня: аб'яднаньне дробных карлікавых калектываў, далучэньне паасобных сялянскіх гаспадарак і цэлых груп іх, калектывізацыя цэлых вёсак і зьліяньне іх з існуючымі калгасамі і інш. І ў даным выпадку мы павінны выявіць найлепшыя спосабы і практыку ўзбуйненьня калгасаў для таго, каб скарыстаць назапасены вопыт і падштурхнуць далейшы працэс узбуйненьня калгасаў і паскорыць пераход да суцэльнае калектывізацыі цэлых сельсаветаў і раёнаў. У гэтым практычная мэтавая ўстаноўка нашых краязнаўчых досьледаў.

Разьвіцьцё калгаснага будаўніцтва ўжо ідзе па шляху стварэньня буйных агра-індустрыяльных камбінатаў, у якіх на мясцовай сыравіннай базе будзе разьвівацца наша мясцовая прамысловасьць. Гэта ідэя пры плянавым яе ажыцьцяўленьні дае нам надзвычайна цікавую пэрспэктыву перабудовы нашай вёскі і ўсяе народнай гаспадаркі.

Далёка ня вывучаным зьяўляецца пытаньне адносна арганізацыі працы ў калгасах, а таксама пытаньне аплаты яе і разьмеркаваньня прыбыткаў. Тут няма аднастайнасьці. Дасьледваньні ў гэтым пытаньні павінны ўстанавіць найлепшы прынцып арганізацыі працы і аплаты яе, маючы на ўвазе павялічэньне прадукцыйнасьці працы і падняцьце вытворчасьці гаспадаркі.

У сувязі з караннымі зьменамі ў гаспадарчых формах і зьмесьце калгаснага будаўніцтва ў параўнаньні з аднаасабовымі сялянскімі гаспадаркамі, адбываюцца зьмены і ў быце калгасьнікаў. Зьмяняюцца грамадзкія і сямейныя ўзаемаадносіны, выпрацоўваюцца новыя калектывістычныя звычкі. Вывучэньне працэсу бытавых зьмен, працэсу нараджэньня камуністычнага быту, працэсу перамогі новага над старым— у нас яшчэ не наладжана. А гэта вельмі патрэбна для нашага больш рашучага змаганьня на культурным фронце. Калі ўсе рэакцыйныя сілы (кулацтва, папы, ксяндзы, сэктанты) імкнуцца затрымоўваць і перашкаджаць працоўным масам будаваць сваё новае жыцьцё, дык мы, выходзячы з канкрэтных умоў нашага сацыялістычнага будаўніцтва, павінны прыняць усе захады да найбольш пасьпяховага будаўніцтва новага камуністычнага быту.

На вялікі жаль, культурна-бытавыя ўмовы ў нашых калгасах мала зьмяніліся, і праца ў гэтым кірунку вядзецца вельмі слабая. Мы яшчэ ня можам пахваліцца больш-менш прыкметнымі дасягненьнямі ў палепшаньні санітарна-гігіенічных умоў жыцьця калгасаў, у арганізацыі выхаваньня дзяцей, у рацыяналізацыі працы жанчын і г. д. Усё гэта ўскладае на краязнаўцаў абавязак вывучыць культурна-бытавыя ўмовы жыцьця калгасаў, выявіць усе недахопы і, намеціўшы канкрэтныя пэрспэктывы далейшага будаўніцтва, папулярызаваць гэтыя пэрспэктывы сярод калгасаў, прыняць непасрэдны ўдзел у арганізацыі і наладжаньня новых умоў жыцьця.

Як арганізаваць вывучэньне тых ці іншых праблем калгаснага будаўніцтва?

Пры вывучэньні тых ці іншых пытаньняў калгаснага будаўніцтва ў раёне неабходна скарыстаць усе пісьмовыя матар'ялы: пастановы сходаў паасобных вёсак, спэцыяльных нарад, пастановы сельсаветаў і РВК, пляны і справаздачы калгасаў, рахунковыя кнігі і ведамасьці

калгасаў і іх аб‘яднаньняў і матар‘ялы краязнаўцаў-калгасьнікаў і краязнаўчых гурткоў у калгасах (дзёньнікі, напр.), матар‘ялы пэрыодычнага друку, прыватныя лісты і запісы. Сабраць зьвесткі ад непасрэдных арганізатараў калгасаў (кіраўнікоў, радавых калгасьнікаў) шляхам непасрэднага, ці анкетнага апісаньня. Непасрэднае вывучэньне сучаснага становішча калгасаў і захаваных матар‘ялаў іх мінулага жыцьця, павінна легчы ў аснову дасьледваньня калгаснага руху ў раёне.

Нялішнім будзе зьвярнуць увагу на неабходнасьць некаторай асьцярожнасьці і належнай крытычнасьці пры карыстаньні вышэйпаказанымі матар‘яламі. Статыстычныя і лічбовыя даныя, якія ёсьць у калгасах, часта бываюць няпоўнымі і няточнымі. Гэта асабліва трэба сказаць пра запісы мінулых гадоў, калі справаздачнасьць у калгасах альбо зусім адсутнічала альбо была пастаўлена нездавальняюча. Прыходзілася сустракацца з выпадкамі, калі ў інвэнтарных кнігах ня былі запісаны нават машыны, набытыя ў 1929 г., прапускаліся запісы прыросту маладняка (у некаторых калгасах Барысаўскага р.); ацэнка будынкаў зусім не адпавядала іх сапраўднай каштоўнасьці і інш. Значыць гэтыя даныя мы павінны будзем правяраць і папаўняць з іншых крыніц. Пры карыстаньні прыватнымі запісамі, лістамі і інш. падобнымі матар‘яламі, трэба заўсёды лічыцца з тым, кім і каму і з якой мэтай яны пісаліся. Калі гэтыя лісты, ці запісы рабіліся нашым клясавым ворагам, чалавекам, які варожа адносіцца да калгаснага будаўніцтва, дык тады мы будзем мець адну ацэнку фактаў, калі будзем мець справу з матар‘яламі (лістамі, запісамі) прыхільнікаў калгаснага будаўніцтва, мы будзем мець другі падыход да справы і другую ўстаноўку. Зразумела, што пры ацэнцы і скарыстаньні падобнага роду матар‘ялаў мы павінны будзем заўсёды лічыцца з клясавай прыналежнасьцю і ідэалёгіяй аўтараў іх. Падыход павінен быць крытычным.



Трактар „Інтэрнацыянал“ у калгасе выкарыстоўваецца як цягавая сіла для малацьбы.

Дасьледчык калгаснага руху павінен цьвёрда стаяць на грунце марксыцкага сьветапогляду і не на хвіліну не забываць аб клясавай барацьбе, якая адбываецца ў сувязі з сацыялістычным наступам на капіталістычныя элемэнты вёскі.

**В. Самцэвіч.**

# Культура морквы на насеньне

Насеньнікі морквы добра захаваць у паграбах—на паліцах. На кожную паліцу кладуць 5-6 радоў морквы, перасыпаючы кожны рад пяском. Пясок павінен быць крыху сырым.

Моркву на зімовы час магчыма захоўваць у ямах, канавах альбо буртах.

У ямах і канавах моркву ўкладваюць стаяком ці полулежа, перасыпаючы рады пяском ці яловай лапкай ад пацукоў.

У буртах моркву ўстанаўліваюць вакол снапа саломы, які абкладваецца яловымі лапкамі, стаяком у некалькі радоў, зьверху насыпаюць ліст, альбо саломы на 40—50 *см.* і прысыпаюць зьверху не да самай сярэдзіны снапа зямлёй. Астаўляюць аддушыны для вэнтыляцыі і для іспарэньня лішку вільгаці ў карэньнях. Пры першых замаразках прысыпаюць зямлей да 20—25 *см.*

У Меншчыне моркву захоўваюць наступным парадкам. Адсартованую моркву прысыпаюць зямлёй, каб на паверху засталіся галоўкі, зьверху насыпаюць ліст і маркоўнік ці гной, затым зямлёю.

У паграбах—у працягу зімы разы 2 праглядаюць насеньнікі морквы і адбіраюць падагніўшыя. Больш усяго морква баіцца лішку вільгаці.

Пасьля вясеньняга адбору і выбракоўкі пашкоджаных і ня зусім добрых па якасьці насеньнікаў, трэба прыступіць, як толькі можна раней да апрацоўкі глебы. Вучастак павінен быць узвораны яшчэ з восені; вясною яго трэба пераараць і прабаранаваць, потым памеціць месца конным меркерам на адлегласьці 70×35 *см.*

У Нямеччыне пасадку праводзяць на адлегласьці 40×20 *см.* для караце́лі і 65×30 для доўгіх сартоў. Для праходу праз кожныя 4 рады застаўляюць 1 рад пустым. Пры пасадцы 40×20 *см.* трэба мець—100.000 шт. насеньнікаў, пры адлегласьці 50×25—64.000 шт., пры 65×30 шт. —41.000 шт.

Саджаць моркву можна пад кол альбо пад плуг. Даўгія сарты, альбо кармовыя, мне прыходзілася саджаць пад плуг праз адну баразну. Карацель лепш саджаць пад кол. Пры пасадцы пад плуг мінэральнае ўгнаеньне ўносілі тут-жа ў адкрытую баразну, а побач клалі моркву.

Трэба пры пасадцы пільнаваць, каб увесь корань быў да галоўкі пакрыт глебай, але-ж каб галоўка была вольна, г. зн. морква павінна быць пасаджана так як яна сядзела ў апошнім годзе ўвосень на лехах.

Да моманту поўнага росту трэба 2 разы прайсьці паміж радоў конным плянэтам, а ў раду—ручным, дзеля барацьбы са шкоднымі травамі.

Падвязку насеньнікаў морквы праводзяць пры невялікай плошчы. Каля кожнага насеньніка ставяць кол, вакол якога абвязываюць шпагатам альбо рагожаю насеньнік.

Пры нямецкім спосабе пасадцы магчыма кожны першы чацьверты рад падвязваць дротам, нацягнуўшы яго на расстаўленыя ў даўжыню радоў кольля. Кольля ў раду павінны стаяць на адлегласьці 2-3 мэтраў адзін ад другога. Дзеля больш скорай расстаноўкі кольляў ходзіць адзін з ломам і робіць ямкі, у якіх другі ўсьлед ставіць кольля, прытоптваючы іх нагой.

На вялікіх плянтацыях лепш за ўсё ніякай падвязкі не рабіць.

Дзеля больш роўнамернага высьпяваньня насеньня праводзяць пінцыроўку (абрыўку) самых маладых кветкавых вярхушак. Пінцыроўка садзей-

нічае больш раўнамернаму высьпяваньню насеньня. Калі пінцыроўку не зрабіць, можа здарыцца, што першае самае лепшае насеньне дасьпее і пачне высыпацца, у той час, як астатняе яшчэ не дасьпела.

Уборку „зонтаў“ прыходзіцца праводзіць на невялікіх плошчах у 3 разы, на большых—у 2 разы.

Маркоўнае насеньне паглынае вільгаць з паветра, пагэтаму збор насеньня трэба праводзіць у сухое надвор'е альбо ў замаразак. Сабраныя галоўкі зьвязваюць у сноп і сушаць над пасьцілкай альбо брэзэнтам, бо сухое насеньне лёгка асыпаецца.

Насеньне атрымліваецца вельмі добрае і чыстае, бяз усякай страты ад порчы. Атрыманае насеньне добра ачышчаецца на сартоўцы „Трыумар“ ад усякага сьмецьця. Дзеля таго, каб добра насеньне ачысьціць, трэба засланкі рэгуляваць улева, каб вецер атрымаць не сквазны, а вінтаабразны.



Будуюць новую клець (Пухавіцкій раён).

Найлепшымі сартамі трэба лічыць з кароткіх—„Парыскі“, з доўгіх „Вораб'еўская“ і „Квелінгбурская“, з кармовых белая зялёнагаловая.

Насеньня ад першага можна атрымаць ад 5 да 9 цэнтр. і ад 18 да 24 цэнтр. саломы. У кожнай калектыўнай гаспадарцы пажадана вырашчваць ня больш аднаго гатунку, у мэтах атрыманьня чыстагатунковага насеньня.

Пажадана, каб калгасныя гаспадаркі ўзяліся ў шырокім маштабе за вырошчваньне насеньня ў межах БССР, дзе кліматычныя і глебавыя ўмовы спрыяюць гэтай карыснай і вельмі патрэбнай працы і гэтым далі магчымасьць надзяліць добраякасным насеньнем іншыя вобласьці вялікага СССР.

**Аграном Л. Калер.**

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## ПРЫКЛАДНЫ СТАТУТ

**пасёлкавага сельска-гаспадарчага вытворчага т-ва, распрацаваны Ўсесаюзным Саюзам Саюзаў сельска-гаспадарчай каапэрацыі і ўхвалены Наркамземам СССР 25 жніўня 1930 г.**

### Разьдзел I

### Мэты і задачы

1. Беднякі і серадняки сёл такога-та раёну, такой-та вобласьці (краю), рэспублікі такой-та, добраахвотна аб'ядняюцца ў пасялковае таварыства, каб сумеснымі сіламі і сродкамі палепшыць і разьвіць сваю гаспадарку, падвысіць прадукцыйнасьць сваёй працы, арганізаваць пачатковую пераапрацоўку і збыт сваёй прадукцыі і тым павялічыць таварнасьць сваёй гаспадаркі, дабіваючыся агульнага ўздыму сельскае гаспадаркі і паляпшэньня свайго матар'яльнага становішча і, такім чынам, змагацца з кулацкай эксплёатацыяй, з беднасьцю, цемнатой і адсталасьцю дробнай распыленай адзінаасабовай гаспадаркі. Таварыства ставіць сваёй задачай разьвіцьцё і ўздым усіх галін сельскае гаспадаркі сваіх сяброў, зьвяртаючы галоўную ўвагу на разьвіцьцё такой-та галіны, як асноўнай і паказальнай для данага раёну.

2. Для дасягненьня гэтых мэт таварыства: а) праводзіць мерапрыемствы для ўсямернага пашырэньня пасеваў сваіх сяброў і падвышэньня ўраджайнасьці, паляпшае пахаць і лугавую зямлю, уводзіць палепшаныя спосабы апрацоўкі зямлі, правільны севазварот, ужываньне складаных машын, трактараў, чыстагатункавага насеньня, угнаеньня і сродкаў барацьбы са шкоднікамі, заключае вытворчы дагавор з бліжэйшай МТС, устанаўлівае і вытварае ў гаспадарках сваіх сяброў агра- і зоа-мінімум; б) забясьпечвае сваіх сяброў насеньнем, сельгасмашынамі і прыладамі, мінэральным угнаеньнем, сродкамі барацьбы са шкоднікамі і іншымі неабходнымі для гаспадаркі, сродкамі вытворчасьці і матар'яламі; в) разьвівае тэхнічныя культуры, пладаводзтва; г) разьвівае гаспадарку сваіх сяброў і арганізуе ў прадпрыемствах таварыствы разьвядзеньня жывёлы і птушкі, набывае племянных вытворцаў; арганізоўвае палепшаныя скотныя двары, сіласаваньне кармоў, інкубатары і птушнікі, плем. рассаднікі, праводзіць вэтэрынарныя мерапрыемствы і г. д.; д) атрымоўвае крэдыты для вытворчых мэт і выкарыстоўвае іх для арганізацыі грамадзкіх прадпрыемстваў і вытворчай дапамогі сваім сябром; е) арганізуе збыт сельска-гаспадарчых прадуктаў гаспадаркі сваіх членаў на грунце кантрактацыйных дагавароў з дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі арганізацыямі; ж) арганізуе і вядзе самастойна, ці сумесна з іншымі калгасна-каапэрацыйнымі аб'яднаньнямі прадпрыемствы па пачатковай пераапрацоўцы сельгаспра-

дуктаў, арганізоўвае майстэрні па рамонту сельгас. інвэнтару, машын, зернаачышчальныя пункты і г. д.; з) арганізуе на грамадзкіх пачатках пабудову гаспадарчых прадпрыемстваў і іншых пабудоў; і) стварае ў мэтах страхаваньня ад неўраджаю і бяскорміцы грамадзкія насенныя і кармавыя запасныя фонды; к) арганізуе ўзаемадапамогу сваіх сяброў, асабліва дапамагаючы батрацтву і беднаце; л) вядзе работу па падвышэньні культурна-палітычнага ўзроўню сяброў т-ва; м) паляпшае бытавыя ўмовы жыцьця сяброў т-ва, у асаблівасьці дзяцей і жанчын. Свае мерапрыемствы т-ва праводзіць усямерна разьвіваючы ґрамадзкую самадзейнасьць сваіх членаў, арганізуючы вытворчыя нарады для абгаварэньня важнейшых пытаньняў сваёй работы, праводзячы сацспаборніцтва як паміж членамі т-ва, так і паміж іншымі таварыствамі, калгасамі і г д.

Разьдзел II

### Пра сяброў таварыства і пра іх абавязкі

3. Прыём у сябры таварыства робіцца праўленьнем, якое ўносіць у сьпіс нанава прынятых членаў на зацьвярджэньне бліжэйшага агульнага сходу. Сябрамі т-ва могуць быць усе працоўныя, якія дасягнулі 16-гадовага ўзросту; кулакі і ўсе асобы, пазбаўленыя выбарчых праў у саветы, у сябры т-ва ня прымаюцца. Выключэньне з гэтага правіла дапускаецца для сяброў тых сем'яў, у складзе якіх маюцца адданыя справе савецкай улады—чырвоныя партызаны, чырвонаармейцы і чырвонафлётцы (радавы і камандны склад), сельскія настаўнікі і настаўніцы, пры ўмове іх паручыцельства з сяброў сваёй сям'і.

4. Усе сябры таварыства даюць абавязак падпарадкавацца патрабаваньням статуту, пастановам агульнага сходу і праўленьня т-ва, акуратна выконваць абавязацельствы па кантрактацыі і правілы вядзеньня гаспадаркі, якія ўстанаўліваюцца таварыствам. За ўхіленьне ад выкананьня абавязацельстваў, прынятых таварыствам, за парушэньне ўставу і пастаноў т-ва, за бесгаспадарчыя адносіны да каапэрацыйнай маемасьці—вінаватыя падлягаюць спагнаньням па ўстаноўленых агульным сходам правілах, аж да выключэньня іх з таварыства і звыш таго—яны абавязаны зьвярнуць прынесеныя імі таварыству страты.

5. Членам таварыства, якія выбываюць ці выключаюцца са складу т-ва, утвараецца разьлік па сканчэньні гаспадарчага году, пры чым ім зварочваюцца іх паявыя ўзносы і належачыя ім ад т-ва сумы, за вылікам страт, якія выпадаюць на іх долю і неаплачаных да таго часу па запазычанасьці т-ву.

Разьдзел III

### Сродкі таварыства

6. Кожны сябра таварыства павінен унесьці ўступны і паявы ўзносы; батракі ўносяць адзін рубель уступнага і 5 руб. паявога ўзносу; бедьнякі, вызваленыя ад сельска-гаспадарчага падатку, уносяць два рублі ўступнага і 10 руб. паявога ўзносу і астатнія сябры т-ва—3 рублі ўступнага і 25 руб. паявога ўзносу. Для батракоў і маламоцных гаспадарак т-ва ўстанаўлівае растэрміноўку па аплаце паявых узносаў. Другія і наступныя (у парадку паступленьня) сябры сялянскага двара, пры ўступленьні ў т-ва ўносяць толькі ўступны ўзнос і вызваляюцца ад выплаты паявога ўзносу. Для асоб, асноўнай крыніцай прыбытку

якіх зьяўляецца заработная плата, паявы ўзнос устанаўліваецца ў залежнасьці ад іх зарплаты ў памеры ад 10 да 25 руб. з дапушчэньнем растэрміноўкі і ўступны ўзнос у памеры ад 1 да 3 руб.

7. Для абсталяваньня вытворчых прадпрыемстваў (жывёлаводных двароў, пракатных пунктаў і інш.) і ажыцьцяўленьня іншых буйных гаспадарчых мерапрыемстваў т-ва, агульны сход членаў можа ўстанаўліваць дадатковыя зваротныя і беззваротныя ўзносы, ці арганізаваць грамадзкія работы сваіх сяброў.

## Разьдзел IV

### Кіраваньне справамі таварыства

8. Справамі т-ва кіруе агульны сход сяброў і праўленьне. Калі скліканьне агульнага сходу з прычыны вялікага ліку сяброў т-ва сустракае цяжкасьці, агульны сход замяняецца сходам упаўнаважаных.

9. Агульны сход (ці сход упаўнаважаных) зьяўляецца вышэйшым органам праўленьня т-ва. Ён выбірае праўленьне і рэвізійную камісію, зацьвярджае для іх інструкцыі, разглядае і зацьвярджае каштарыс прыбыткаў і выдаткаў, а таксама пляны дзейнасьці таварыства, дагавары аб кантрактацыі, аб сацспаборніцтве і разьвязвае ўсе іншыя важнейшыя пытаньні дзейнасьці таварыства.

Агульны сход (ці сход упаўнаважаных) сапраўдны пры наліччы ня менш палові членаў. Пастановы агульнага сходу (ці сходу упаўнаважаных) прымаюцца простай большасьцю галасоў.

10. Праўленьне выбіраецца агульным сходам на адзін год у складзе ня менш 3-х членаў і 2-х кандыдатаў да іх. Праўленьне зьяўляецца выканаўчым органам таварыства, кіруе ўсімі яго справамі і робіць справаздачу аб сваёй дзейнасьці перад агульным сходам (ці сходам упаўнаважаных) ня менш 2-х раз у год.

11. Праўленьне абавязана весьці рахункаводзтва па формах, устаноўленых Райкаапсаюзам.

12. Рэвізыйная камісія правярае дзейнасьць праўленьня, у прыватнасьці нагляд за статутам, выкананьне каштарысу, выкананьне вытворчага пляну, дагавароў і абавязацельстваў, робіць рэвізію касы, маемасьці, дакумантаў і справаздачнасьці, дае заключэньні па гадавых справаздачах і падсправаздачна ў сваёй дзейнасьці перад агульным сходам (ці сходам упаўнаважаных) аб кожнай рэвізіі. Рэвізійная камісія выбіраецца на 1 год ў складзе 3-х членаў і 2-х канд. да іх.

## Разьдзел V

### Узаемаадносіны каапэрацыйнай сыстэмы

13. Таварыства ўваходзіць сябрам у які-та райкаапсаюз і вядзе сваю работу пад яго непасрэдным кіраўніцтвам. Таварыства заключае з райкаапсаюзам умову аб кантрактацыі, якая ўстанаўлівае абавязацельствы т-ва і яго членаў па арганізацыі сельска-гаспадарчае вытворчасьці і плянавай здачы таварнай прадукцыі дзяржаве і каапэрацыі, а таксама абавязацельствы райкаапсаюзу і іншых дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый па забясьпечаньні т-ва і яго членаў сродкамі вытворчасьці і прадметамі спажываньня і па арганізацыі крэдытнай дапамогі і агратэхнічнага абслугоўваньня т-ва і яго членаў.

# Пастанова Калегіі Народнага Камісарыяту Земляробства аб уборачнай кампаніі па бульбе

*30 жніўня 1930 г.*

Сваячасовая ўборка бульбы мае рашучае значэньне на якасьць яе прадукцыі—захоўваньні на зімовы час. Значныя пасеўныя плошчы бульбы ў сацыялістычным сэктары, працаёмкасьць уборкі гэтай культуры стварае ўгрозу несваячасовай уборкі бульбы па часьці саўгасаў і калгасаў, асабліва пры недахопе мэханізаваных уборачных машын (бульбакапацеляў).

У мэтах забясьпечаньня сваячасовай уборкі бульбы Калегія Наркамзему пастанаўляе:

1. Саўгаскім цэнтрам і Белкалгасцэнтру ва ўсіх саўгасах і калгасах з наліччам бульбакапацеляў забясьпечыць работу гэтых машын у 2 зьмены, з мэтай хутчэйшага аслабаненьня бульбакапацеляў і перакінкі іх у бліжэйшыя калгасы са значнымі плошчамі бульбы і не забясьпечаных у дастатковай колькасьці рабочымі рукамі.

2. Раённым зямельным аддзелам і калгасна-каапэрацыйным систэмам у асобных выпадках, дзе гэта тэхнічна немагчыма, арганізаваць пераброску рабочай сілы для ўборкі бульбы з больш моцных калгасаў, забясьпечаных рабочай сілай, у больш слабыя калгасы.

3. Раённым зямельным аддзелам прыняць меры па арганізацыі дапамогі па ўборцы бульбы калгасам, з боку актыўнай часткі прафсаюзнай масы раёну і сельсавету (у дні індустрыялізацыі), а таксама прыцягнуць для дапамогі па ўборцы бульбы у калгасах і саўгасах маючуюся ў раёнах свабодную рабочую сілу (беспрацоўных), для чаго шчыльна ўвязацца з раённымі арганізацыямі прафсаюзаў і Наркампрацы.

4. Саўгасна-каапэрацыйным органам усямерна разьвіць дапамогу з боку саўгасаў і калгасаў індывідуальна-бядняцка-серадняцкім гаспадаркам, па абмалоту і сяўбе азімых, асабліва бясконным гаспадаркам, дабіваючыся ўзаемнай дапамогі з боку індывідуальных гаспадарак у форме людзкой сілы, а дзе магчыма і конскай для ўборкі бульбы.

5. Саўгаскім і калгасна-каапэрацыйным органам прыняць меры па уплатненьні і павышэньні эфэктыўнасьці рабочага дню ў калгасах і саўгасах, для чаго павесьці шырокую растлумачальную работу за пашырэньне сацыялістычнага спаборніцтва, ударніцтва, высоўваньня і прыняцьця сустрэчных норм выпрацоўкі. Адначасова для стымуляваньня працы шырока прыняць мэтад праміраваньняў за звыш нармовую выпрацоўку і якасьць працы.

6. Для шырокага азнаямленьня з правіламі і прыёмамі захаваньня бульбы на зімні час, асабліва пры буртаваньні, даручыць „Белплодоовощь“ складзеную Наркамземам інструкцыю па захаваньні бульбы выдаць у выглядзе лістоўкі з шматлікім тыражом.

7. Раённым зямельным аддзелам разам з калгасна-каапэрац. арганізацыямі вылучыць агранома ў дапамогу загатоўчым органам для консультацыі і інструктажу пры буртаваньні бульбы.

Вылучаных аграномаў на час буртаваньня бульбы перадаць у вядзеньне „Белплодоовощь“.

8. Калгасна-каапэрац. сыстэме падабраць кадры буртаўшчыкоў, прапусьціўшы іх праз арганізуемыя „Белплодоовощь“ спэцыяльныя тыднёвыя курсы, для чаго дагаварыцца з сыстэмай „Белплодоовощь“.

9. У зьвязку з дажджлівым падвор'ем і мажлівасьцю распаўсюджваньня бульбяных хвароб, прапанаваць Цэнтральнай бульбянай станцыі і станцыі па ахове расьлін даць у пэрыядычны друк, асабліва ў часопісь „Шляхі Калектывізацыі“, „Беларуская Вёска і газ.“ С.-г. Рабочы“ шэраг папулярных артыкулаў па ахове бульбы ад захворваньня гнільлю і захоўваньні на зімовы час.

10. Так як бульба-ўборачная кампанія прадстаўляе сабой галоўную кампанію па ўборцы ўраджаю на кожным паседжаньні Калегіі заслухоўваць даклады Белсельтрэсту і Белкалгасцэнтру па пытаньню аб ходзе ўборачнай кампаніі.

11. У зьвязку з тым, што частка бульбы ідзе на рынак, пачаць уборку бульбы на тыдзень раней намечанага тэрміну.

Усім РВК для выкананьня.

Нам. Наркома **Масюкоў**.

2 IX 1930 г.
№ 5622.

# Да ўсіх рабочых саўгасаў, калгасьнікаў, беднаты і серадняцтва БССР.

ТАВАРЫШЫ!

Набліжаецца „Дзень ураджаю і калектывізацыі", дзень пад'агульваньня дасягнутых посьпехаў у соцыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, у наступленьні на капіталістычныя элемэнты і выкарчоўваньні карэньняў капіталізму.

„Дзень ураджаю і калектывізацыі" будзе праводзіцца ва ўмовах па ўсяму фронту разгорнутага наступленьня на капіталістычныя элемэнты; ва ўмовах пасьпяховага сканчэньня другога году пяцігодкі і шпаркім тэмпам разгортваемай працы па выкананьні плянаў трэцяга году „вялікіх работ".

„Дзень ураджаю і калектывізацыі" будзе праводзіцца ва ўмовах, калі значная частка батрацтва, беднаты і сераднякоў, аб'яднаўшыхся ў калгасы, будуць падлічваць вынікі першага году калектыўнае працы, выяўляць на канкрэтных прыкладах перавагу буйнае колектыўнае гаспадаркі над дробнай індывідуальнай.

Толькі папярэдні падлік вынікаў калектыўнае працы ў калгасах ужо з усёй яскравасьцю паказваюць значныя перавагі калектыўнае працы над адзінаiічнай.

*Падлічаныя ў вялікай колькасьці калгасаў БССР папярэднія вынікі калектыўнае працы сьведчуць, што кожная ўвайшоўшая ў калгас гаспадарка, як правіла, атрымоўвае большы прыбытак, чымся мелі гэтыя гаспадаркі раней ад сваіх дробных адзіналічных.*

Вось чаму наш клясавы вораг—кулацтва і іншыя ворагі сацыялістычнага будаўніцтва ўсімі сіламі і сродкамі стараюцца перашкодзіць далейшаму калгаснаму руху. Клясавы вораг імкнецца выкарыстаць усе слабыя месцы працы калгасаў, каб скампрамэтаваць справу калектывізацыі.

Кулацтва ў сваёй барацьбе супроць калгасаў і калгасьнікаў выкарыстоўвае і такі сродак барацьбы, як падпалы сабранага калгасамі ўраджаю, будынкаў і г. д.

Кулацтва добра разумее, што суцэльная калектывізацыя нясе ліквідацыю яго (кулацтва) як клясу,—таму яшчэ мацней разгорнем бязьлітасную барацьбу з клясавым ворагам—кулацтвам.

**Таварышы калгасьнікі і адзіналічнікі беднякі і серадня кі!** Рабочая кляса БССР, як і ўсяго Савецкага Саюзу, на заклік Цэнтральнага Камітэту Ўсесаюзнай Комуністычнай Партыі, з нябывалай энэргіяй і творчым энтузіязмам разгарнула работу па заканчэньні другога году пяцігодкі, каб гэтым самым забясьпечыць поўнае выкананьне трэцяга году пяцігадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва.

*Шырока разгортваецца сацыялістычнае спаборніцтва, ударніцтва, узьнімаецца высокай хваляй творчая ініцыятыва рабочае клясы на пасьпяховае завяршэньне плянаў індустрыялізацыі краіны.*

*Тэмпы далейшага разгортваньня прамысловасьці і індустрыялізацыі краіны,* ад чаго ў сваю чаргу залежыць большае і лепшае забясьпечаньне сельскае гаспадаркі, машынамі, промтаварамі і г. д., *могуць*

*быць яшчэ больш высокімі, калі сельская гаспадарка, у першую чаргу сацыялістычны сэктар—саўгасы і калгасы—своечасова і поўнасьцю выканае свой прамфінплян,* пляны па пашырэньні засеву тэхнічных культур, па разьвіцьцю жывёлагадоўлі, асабліва сьвінагадоўлі і г. д. *А між тым, саўгасы і калгасы набліжаюцца да „Дню ўраджаю і калектывізацыі“ з значнымі прарывамі ў выкананьні шэрагу важнейшых заданьняў камуністычнай партыі і ўраду па лініі сельскае гаспадаркі.*

Найбольш небясьпечнымі прарывамі зьяўляюцца: *слабы тэмп асеньняй сяўбы*; *недапушчальна марудны ход уборкі ўраджаю, асабліва тэхнічных культур*; *надта дрэнна выконваюцца пляны камплектаваньня спэцыялізаваных малочна-жывёлагадоўчых і сьвінаводных саўгасаў і калгасаў; слаба вядзецца гаспадарчае будаўніцтва; нікуды ня варта работа па сілосаваньню.*

Мы павінны памятаць, што недавыкананьне плянаў, недавыкананьне заданьняў па сельскай гаспадарцы паслабляе нашы сілы і па сутнасьці дапамагае нашаму-ж клясаваму ворагу—кулацтву ў яго барацьбе супроць нас, супроць саўгасаў, калгасаў, а гэтым самым супроць беднаты і серадняцтва.

**Таварышы рабочыя саўгасаў, калгасьнікі і адзіналічнікі беднякі і серадннякі!** Мы заклікаем вас з удзесяцяронай энэргіяй, з усёй бальшавіцкай рашучасьцю безадкладна разгарнуць падрыхтоўчую працу да „Дню ўраджаю і калектывізацыі“, на аснове рэалізацыі адозвы ЦК УсеКП(б) пад лёзунгамі:

„За далейшае разгортваньне калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР усіх нацыянальнасьцяй. За суцэльную калектывізацыю і ліквідацыю на гэтай аснове кулацтва, як клясы“.

„За правільную арганізацыю працы ў калгасах; за поўнае выкананьне да ўстаноўленых тэрмінаў плянаў сяўбы, сілосаваньня, камплектаваньня жывёлагадоўчых і сьвінаводных саўгасаў і калгасаў“.

„За абавязкова поўнае выкананьне плянаў хлебазагатовак, за поўную ўборку тэхнічных культур і бульбы“.

„За поўнае выкананьне ўсіх заданьняў і плянаў да „Дню ўраджаю і калектывізацыі“.

„Узьнімем ініцыятыву калгасьнікаў, адзіналічнікаў беднякоў і серадннякоў на мабілізацыю грашовых сродкаў для паскарэньня тэмпаў індустрыялізацыі краіны, для справы будаўніцтва заводаў па вырабу сельскагаспадарчых машын шляхам поўнага збору паёў, рэалізацыі трактарных і аўтамабільных абавязацельстваў, акцый трактарацэнтру, павялічэньня ўкладаў калгасаў і калгасьнікамі ў крэдытных таварыствах і Касах Ашчаднасьці“.

Лепшым і мацнейшым ударам па клясаваму ворагу—па кулаку будзе зьяўляцца арганізацыя новых калгасаў, уцягненьне бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у ўжо існуючыя, поўнае заканчэньне ўборкі, севу, сілосаваньня і арганізацыя жывёлагадоўчых гаспадарак, устанаўленьне правільных узаемаадносін паміж калгасьнікамі і адзіналічнікамі.

**Таварышы рабочыя саўгасаў, калгасьнікі!** Разгорнем пад кіраўніцтвам мясцовых партыйных арганізацый бальшавіцкімі тэмпамі работу сярод адзіналічнікаў беднякоў і серадннякоў за далейшае разгортваньне калектывізацыі, за вытворчае каапэраваньне.

*Сустрэнем „Дзень ураджаю і калектывізацыі“ сотнямі новых калгасаў, дзесяткамі тысяч калектывізаваных і каапэраваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак!*

Поўнасьцю выканаем пляны асеньняга севу.

Ніводнага кавалку незасеянай зямельнай плошчы, вызначанай да засеву азімымі.

100 проц. выкананьне плянаў па камплектаваньні малочных і сьвінаводных гаспадарак.

Абавязкова поўнае забясьпечаньне жывёлы добра абсталяванымі хлявамі.

Сустрэнем „Дзень ураджаю і калектывізацыі“ поўнай уборкай і ўпарадкаваньнем тэхнічных культур і бульбы.

*Поўнасьцю выканаем да „Дню ўраджаю і калектывізацыі“ пляны хлебазагатовак, выканаем свае абавязкі перад пралетарскай дзяржавай. Ніводнага кілёграма таварных лішкаў прыватніку.*

Сваячасова і поўнасьцю выконваючы пляны загатовак хлебу, мяса, гародніны і садавіны, будзем паляпшаць снабжэньне рабочых цэнтраў, а гэтым самым паскараць тэмпы будаўніцтва сацыялізму.

„Дзень ураджаю і калектывізацыі“ павінен зьявіцца днём магутнага разгортваньня руху сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва за бальшавіцкія тэмпы работы.

Правядзем шырокую справаздачнасьць саўгасаў і калгасаў перад адзінаалічнікамі беднякамі і серадняками праз справаздачныя сходы, раённыя і сельскія выстаўкі і г. д.

**Таварышы адзінаалічнікі—беднякі і сераднякі!** Вы на практыцы, на выніках першага году работы калгасаў самі бачыце перавагу калектыўнае гаспадаркі над дробнай індывідуальнай. Для таго, каб хутчэй забясьпечыць сапраўдны ўздым сельскае гаспадаркі, палепшыць сваё матар'яльнае становішча, каб пазбавіцца ад свайго заклятага ворага, крывапійцы, абдзіралы—кулака, хутчэй арганізуйце новыя калгасы, уступайце ў ужо існуючыя і арганізоўвайце вытворчыя таварыствы.

**Таварышы „25-ці тысячнікі“!** Вы ўжо аказалі вялізарную практычную дапамогу ў замацаваньні калгасаў і дасягнутых посьпехаў па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі. *Падвойце вашу энэргію за далейшае разгортваньне калектывізацыі, за далейшыя, яшчэ больш высокія якасныя паказчыкі колектыўнае працы.*

**Таварышы рабочыя саўгасаў, калгасьнікі, „25-ці тысячнікі“!** *Арганізуем магутны руйнуючы адпор кулацтву.*

*Дзень 14-га кастрычніка, замест рэлігійнага сьвята, ператворым у генэральны агляд нашых дасягненьняў і недахопаў у сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі,* зробім днём праверкі выкананьня аграмінімуму, шырокай мабілізацыі мас калгасьнікаў, беднякоў і серадняцтва на далейшае разгортваньне работы па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, на рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты.

За суцэльную калектывізацыю, за сацыялістычнае земляробства, за ліквідацыю кулацтва, як клясы, на аснове суцэльнае калектывізацыі, за ўзмацненьне абароназдольнасьці нашае краіны.

За шырокае выяўленьне дасягненьняў і недахопаў калектыўнае працы.

**Няхай жыве камуністычная партыя—арганізатар сацыялістычнага будаўніцтва.**

**Пад кіраўніцтвам КП(б)Б уперад да новых перамог па шляху сацыялістычнае рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.**

Народны Камісар Земляробства БССР **Рачыцкі.**

Старшыня Праўленьня Калгасцэнтру БССР **С. Міцькоў.**

**Усім загадчыкам раённых земаддзелаў, усім райкалгассаюзам, калгасам, камунам, арцелям і ўсім навуковым работнікам і спэцыялістым па сельскай і лясной гаспадарцы БССР.**

Паважаныя таварышы!

У час гіганцкага будаўніцтва калгасаў і саўгасаў СССР і БССР на газ. „Сац. Земляробства“ орган Наркамзему СССР Калгасцэнтру і Зярнятрэсту ўскладзена задача поўна асьвятляць разьвіцьцё калгаснага руху Савецкага Саюзу і, таму яна становіцца асабліва каштоўнай для кожнага рабочага саўгасу і калгасьніка, спэцыялістага, зямельнага працаўніка.

Адсутнічаньне сталых карэспандэнтаў з ліку калгасьнікаў і работнікаў зямельных органаў—жыцьцё, будаўніцтва і быт калгасаў БССР да гэтага часу асьвятляліся на старонках газ. „Сац. Земляробства“ недастаткова.

У сучасны момант Наркамзем БССР і Калгасцэнтрсаюз ставяць аднэй з асноўных задач, асьвятляць увесь ход калгаснага будаўніцтва па БССР на старонках газ. „Сац. Земляробства“. Для гэтага неабходна ва ўсіх калгасах, саўгасах і органах Наркамзему выдзяліць з ліку актывістых лепшых грамадзкіх работнікаў і даручыць ім паступова даваць матар'ял у газэту „Сац. Земляробства“ як аб дасягненьнях, так і недахопах у рабоце калгасаў, саўгасах і органаў Наркамзему. Гэту работу павінны ўзяць на сябе грамадзкія арганізацыі пры актыўным садзейнічаньні кіраўнікоў калгасаў, саўгасаў і земорганаў.

Асьвятляючы жыцьцё нашага калгаснага будаўніцтва, неабходна таксама быць у курсе справы калгаснага будаўніцтва па ўсяму Савецкаму Саюзу, для гэтага патрабуецца мець дастатковую колькасьць газэт „Сац. Земляробства“ ў калгасах, саўгасах і земорганах.

Да гэтага часу па БССР маецца нязначная колькасьць падпішчыкаў на газэту „Сац. Земляробства“.

Для таго, каб газэта „Сац. Земляробства“ знайшла масу чытачоў і зьяўлялася кіруючым матар'ялам нашага калгаснага будаўніцтва, неабходна ўсімнізавым арганізацыям калгасаў, с. г. арцелям, раённым і цэнтральным аб'яднаньням, калгасаюзаў выпісаць у дастатковай колькасьці газэту „Сац. Земляробства“.

Скарыстоўваючы для гэтага калектыўную падпіску калгасьнікаў, так і выпіску за кошт маючыхся культфондаў, выпіска „Сац. Земляробства“ павінна вытварацца ў паасобку кожным калгасам з с.-г. арцелям. Па лініі Наркамзему неабходна прадугледзіць уключэньне ў бюджэтнае асыгнаваньне выпіску газэты „Сац. Земляробства“ нараўне з іншымі дзяржаўнымі органамі для ўсіх устаноў і арганізацый ў тым ліку і для саўгасаў.

Наркамзем БССР *Масюкоў.*

Старшыня Праўленьня Калгасцэнтру *Міцькоў.*

Рэдакцыя—**Рэдкалегія.**

## ЗЬМЕСТ



### Афіцыйны аддзел

**ЦАНА 20 КАП.**



# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Часопіс сацыялістычнага земляробства і агранамізацыі насельніцтва.

Выданьне Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР.

ЧАСОПІС

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

**ставіць сваёй мэтай у папулярнай форме адбіць шляхі калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня—камуны, арцелі, так і простыя—рознага віду таварыствы.**

ЗАДАЧЫ ЧАСОПІСУ

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

згуртаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д., а працаўніком калгассыстэмы, зямельным, агранамічным і ўсяму вясковаму актыву дапамагчы выконваць працу ў гэтым напрамку на мясцох.

Значнае месца адводзіцца ў часопісу падвышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязаны з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў і перадавым актывам калгасаў і вёскі.

| ПАДПІСНАЯ ПЛАТА: | | |
|---|---|---|
| | На год . . . . | 2 р. 20 к. |
| | На 6 м-цаў . . . | 1 р. 10 к. |
| | На 3 м-цы . . . | 60 к. |
| | Паасобны нумар . | 20 к. |

Зборшчыкі падпіскі атрымліваюць 15% пры завербаваньні 6 гадавых ці 12 паўгадавых падпішчыкаў. Замест грашовага адлічэньня зборшчык, які сабярэ 6 гадавых або 12 паўгадавых падпісак, можа быць залічан гадавым падпішчыкам часопісу.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: на кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў рэдакцыі.

 АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 71, Н. К. З. Б. Тэлефон 17-15.**

Менск, друк. БДВ. Зак. № 2298. 10.000. (3¼ арк.) Галоўлітбел № 2788.